ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 12 (2643) • Пятніца, 23 сакавіка 1973 года • Цана 8 кап.




У юных чытачоў пачынаецца традыцыйнае веснавое свята—Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі. Дні, насычаныя радаснымі сустрэчамі з новымі кнігамі, з любімымі пісьменнікамі.

## НЕЎМІРУЧАСЦЬ ХАТЫНІ



**Хатынь. Боль наш — Хатынь. На ўвесь свет гучыць гэтае слова, як напамінак пра мінулую вайну, пра нечалавечую жорсткасць фашызму.**

**Трыццаць гадоў сплыло з таго шэрага сакавіцкага ранку, калі веску, схаваную сярод дрымучых лагойскіх лясоў, абудзілі кулямётныя стрэлы... Што было далей, ведае цяпер кожны...**

**Сёння ў славуты на ўвесь свет мемарыяльны комплекс Хатынь прыязджаюць тысячы людзей. Пакланіцца святым папялішчам.**

**Трагічны рэквіем іграюць званы Хатыні. Агонь Хатыні не згасае ў нашых сэрцах.**

**Не забудзем ніколі!**

**Не дапусцім, каб паўтарылася!**

У Светлагорску адбыліся канцэрты артыста Валянціна Міронава з Масквы, які выступіў з літаратурнай кампазіцыяй, прысвечанай трагедыі і гераізму Хатыні. Кампазіцыя складаецца з вершаў савецкіх і замежных паэтаў і з урыўкаў з празаічных твораў аб незабыўным дні 22 сакавіка сорак трэцяга года, калі рука захопніка пусціла дымам у неба яшчэ адну вёску на Беларусі, калі абарвалася жыццё няскораных хатынцаў. Аўтар праграмы і рэжысёр Людміла Чудноўская мэтанакіравана і разумна пабудавала своеасаблівы спектакль, дзе гучаць пазма Г. Бураўкіна і вершаваныя маналогі К. Сіманава і Э. Межэлайціса, палякаў В. Шымборскай і Т. Кубяка, амерыканца Л. Ферлінгеца, дакументальныя звесткі і мастацкае слова. Узрушвае расказ старога Іосіфа Камінскага... Артыст захоўвае публіцыстычны напал і, разам з тым, паглыбляецца ў лірычную плынь прамоў, ён запальвае аўдыторыю, бо сам усхвалявана перажывае тое, аб чым гаворыць і што, здаецца, бачыць сваімі вачыма.

Скончыўшы школу-студыю МХАТ імя М. Горкага, В. Міронаў працаваў у Цэнтральным дзіцячым тэатры. Цяпер ён чытальнік. Пасля таго, як артыст наведаў Хатынь і прачытаў паэму Г. Бураўкіна «Хатынскі снег», ён адчуў патрэбу і абавязак выступіць з эстрады з праграмай, прысвечанай векапомнай старонцы Вялікай Айчыннай вайны.

Светлагорцы вельмі цёпла і ўсхвалявана сустрэлі яго выступленні.

**І. КАТЛЯРОЎ.**

## КЛУБ І МОЛАДЗЬ

*КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў МІНСКУ*

НЯДАЎНА ў Мінску адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Клуб і моладзь». Такая канферэнцыя праводзілася ў рэспубліцы ўпершыню. Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» сустрэўся з яе ўдзельнікамі.

Вось што сказала Нэля Сцяпанаўна Крыжаноўская, намеснік дырэктара Інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры:

— Такія канферэнцыі проста неабходныя для ўзгаднення работы ўстаноў культуры і камсамольскіх арганізацый. Мы абмяркавалі формы і метады супрацоўніцтва, ролю мастацкай самадзейнасці ў выхаванні моладзі.

У дакладзе сакратара ЦК ЛКСМ Беларусі Г. Анціпава і ў лекцыі доктара мастацтвазнаўства Ю. Чурко гаварылася аб важнай праблеме—аўтарытэце культработніка. Не сакрэт, што юнакі і дзяўчаты, выбіраючы гэтую прафесію, маюць аб ёй вельмі цьмянае ўяўленне. Таму трэба больш расказваць аб прафесіі культасветработніка, аб лепшых яе працаўніках — расказваць на старонках газет, па радыё, па тэлебачанні.

Я шмат гадоў была на камсамольскай рабоце і ведаю, наколькі звязаны паміж сабой аўтарытэт культработніка і стан камсамольскай работы на вёсцы. Звычайна моладзь групуецца вакол клуба, і там, дзе культработнікі і камітэты камсамола працуюць сумесна, плён іх работы значны.

Аб гэтым жа гаварыць і Вячаслаў Хмялеўскі, сакратар Ваўкавыскага райкома камсамола:

— На канферэнцыі мы шмат чаго ўзялі з тэорыі, а практыка — наперадзе. Хаця ўвогуле прыкладаў добрага супрацоўніцтва камсамола, прафсаюзаў і ўстаноў культуры нямала. Калі ж пра наш раён, дык возьмем хоць бы саўгас «Шылавічы». Гэтыя арганізацыі тут разам складаюць план работы, разам яго выконваюць — да таго ж, пры поўнай падтрымцы з боку дырэктара. Іван Канстанцінавіч Антановіч заўсёды прыходзіць на вечары ў клуб, часта выступае з лекцыямі.

А дырэктар саўгаса «Падарорскі» А. Барташэвіч — сама спявачка. Ні адна рэпетыцыя без яе не абыходзіцца. І самадзейнасць у саўгасе — на высокім узроўні.

— А нам хацелася б большай дапамогі ад камсамола, — заявіў Аляксандр Нісневіч, мастацкі кіраўнік Віцебскага палаца культуры ўпраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва. — У арганізацыі вечароў адпачынку, пры правядзенні лекцый, вусных часопісаў. Падзелу на «гэта—твой участак работы, а гэта мой» — быць не павінна. Мы робім агульную справу, вельмі нялёгкую і адказную.

Што датычыць уражання ад канферэнцыі, то магу сказаць, што нам, работнікам культуры, яна была цікавая таму, што вызначыла напрамак для вырашэння шматлікіх праблем...

Аб іх, праблемах, гаварылі і Г. Клёсава, начальнік Віцебскага абласнога ўпраўлення культуры, і першы сакратар Хойніцкага райкома камсамола В. Касабоцкая, і дырэктар дома мастацкай самадзейнасці горада Мінска Т. Курыла і многія іншыя ўдзельнікі канферэнцыі.

## НАМ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ

### З ГОМЕЛЯ

**Больш за дзесяць год Гомельскі палац культуры імя Леніна шэфствуе над калгасам імя 1 Мая Гомельскага раёна. Работнікі палаца падрыхтавалі і аформілі галерэю партрэтаў перадавікоў сацыялістычнага спаборніцтва калгаса, зрабілі стэнды наглядной агітацыі, перадалі 1.000 экземпляраў кніг сельскай бібліятэцы. Калектыў палаца сябруе таксама з хлебаробамі калгасаў «XXII з'езд КПСС» і імя Урыцкага, саўгаса «Падлессе» Рэчыцкага раёна.**

**Працаўнікі падшэфных калгасаў і саўгаса—частыя госці палаца культуры. Яны прыязджаюць сюды, каб паглядзець новы спектакль народнага тэатра, чарговую праграму ансамбля песні і танца, аркестра народных інструментаў.**

**За актыўны ўдзел у культурна-шэфскай рабоце на сяле палац культуры імя Леніна ўзнагароджаны Дыпломам I ступені Міністэрства культуры СССР, Цэнтральнага камітэта прафсаюза работнікаў культуры і Цэнтральнага камітэта прафсаюза рабочых і служачых сельскай гаспадаркі і нарыхтовак.**

**Р. СЫРКІН.**

●

На фасадзе дома № 50 па Савецкай вуліцы Гомеля ўстаноўлена мемарыяльная дошка. На ёй надпіс:

«Тут у 1941 — 1942 гг. дзейнічала падпольная патрыятычная група, якую ўзначальвалі камуністы Герой Савецкага Саюза Ц. С. Барадзін і Р. І. Цімафеенка».

На рахунку маладзёжнай групы — узрыў нямецкіх майстэрняў па рамонце танкаў, нямецкага рэстарана, вывад са строю мясакамбіната, палітычная работа сярод насельніцтва, у лагеры ваеннапалонных. У пачатку мая 1942 года ў час нарады падпольнай групы, якая абмяркоўвала план узрыву электрастанцыі, Цімафей Барадзін са сваімі сябрамі быў арыштаваны, і 20 чэрвеня 1942 года пакараны смерцю. Неўзабаве загінуў і Раман Цімафеенка.

У фондах Гомельскага абласнога краязнаўчага музея беражліва захоўваецца перадсмяротнае пісьмо Ц. Барадзіна, напісанае алоўкам на насоўцы. «Родныя! У апошнюю хвіліну пішу Вам. Відаць мой такі лёс, каб памерці ад кулі... Даруйце мне... Дарагія, беражыце сябе... Прывітанне ў перадсмяротны час усім сваякам і знаёмым. 20 чэрвеня 1942 г. Барадзін Цімафей Сцяпанавіч».

**М. ГАТОЎКІН.**

### З ВІЦЕБСКА

**Для акцёраў Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа творчыя сустрэчы з гледачамі сталі традыцыяй. Яны праходзяць у тэатры пасля спектакляў, у цэхах прадпрыемстваў, у студэнцкіх інтэрнатах...**

**Месцам чарговай сустрэчы была Віцебская студыя тэлебачання. У ліку актыўных прыхільнікаў коласаўцаў, якія прыйшлі ў тэлестудыю, былі электразваршчык завода заточных станкоў імя XXII з'езда КПСС, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР М. Галалобаў, старшыня калгаса імя Чырвонай Арміі Віцебскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы М. Кац, дацэнт педагагічнага інстытута імя Кірава Я. Матлін і іншыя.**

**Галоўны рэжысёр тэатра, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі расказаў аб творчых планах калектыву.**

**Народныя артысты БССР Ф. Шмакаў, А. Трус, А. Шэлег, З. Канапелька, І. Матусевіч, маладыя акцёры тэатра паказалі ўрыўкі са спектакляў.**

**Сустрэча ў Віцебскай студыі тэлебачання транслiравалася на рэспубліку.**

**А. ЦЁМІН.**

### З БРЭСТА

Тэлевізійны часопіс «Буг», які рэгулярна выпускае Брэсцкая студыя тэлебачання, адгукаецца на самыя розныя падзеі культурнага жыцця горада і вобласці, знаёміць гледачоў з цікавымі людзьмі, знатнымі землякамі, з лепшымі аматарскімі калектывамі вобласці.

Гасцямі апошняга нумара часопіса былі мастакі горада, якія расказалі пра сваю работу, падзяліліся творчымі планамі.

Часопіс расказаў таксама пра два зборнікі вершаў М. Цялічкі «Добрый ливень» і «Дерево в бору», якія выйшлі ў выдавецтве «Беларусь». Шматлікія тэлегледачы ўбачылі паэта і пачулі вершы ў яго выкананні.

Адна са старонак часопіса была прысвечана рабоце акцёраў Брэсцкага драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола.

З кніжкамі аб гісторыі Брэстчыны, яе прыродзе, жывёльным свеце пазнаёмілі гледачоў работнікі абласной бібліятэкі.

Пастаянныя стваральнікі часопіса «Буг» — рэжысёр В. Нячэхін, рэдактар А. Гарай.

## НА АБЛАСНЫХ АГЛЯДАХ

У рэспубліцы завяршаюцца абласныя агляды народных тэатраў, драматычных калектываў і агітацыйна-мастацкіх брыгад. У Барысаве члены журы глядзелі спектакль народнага тэатра «Вучань д'ябла» Б. Шоў. Купалаўскую «Паўлінку» і «Трыбунал» А. Макаёнка паказалі народныя тэатры Пухавіцкага раённага і Маладзечанскага гарадскога дамоў культуры. Стаўбцоўскі народны агіттэатр «Полымя» пазнаёміў са сваёй новай праграмай «Луста хлеба».

Разнастайная рэпертуарная афіша мінскіх народных тэатраў. Трактаразаводцы паказваюць спектакль «Вайна вайне» па п'есе Я. Коласа, народныя тэатры палаца культуры прафсаюзаў і дома афіцэраў — «Лес» А. Астроўскага і «Ты і я» Л. Ленча; народны тэатр мімікі і жэста Беларускага таварыства глуханямых — спектакль «Трыбунал».

У творчым конкурсе прынялі ўдзел і драматычныя калектывы Міншчыны. «У бэзавым садзе» Ц. Саладара паказалі артысты-аматары Вілейскага гарадскога дома культуры, «За чым пойдзеш—тое і знойдзеш» А. Астроўскага артысты Чэрвеньскага раённага дома культуры.

Драматычны калектыў ветэранаў працы Мінскага палаца культуры прафсаюзаў пазнаёміў з прэм'ерай спектакля «Пагібель Алмазава» А. Альшанскага. Тэатр мініяцюр політэхнічнага інстытута прапанаваў спектакль «Калі ты інжынер», драматычны калектыў Мінскага тонкасуконнага камбіната спектакль па п'есе І. Штока «Ленінградскі праспект».

Новыя праграмы падрыхтавалі да агляду агітацыйна-мастацкія брыгады Мінска: «Цаглінка» будаўнічага трэста № 5, «Кінескоп» радыёзавода, а таксама медыцынскага інстытута. З сельскіх брыгад у конкурсе ўдзельнічалі калектывы саўгаса «Краснае» Маладзечанскага раёна, торфапрадпрыемства «Чырвоны сцяг» Смалявіцкага раёна, калгаса «Бальшавік» Лагойскага раёна і брыгады Дзяржынскага і Івянецкага дамоў культуры.

●

У Гомельскай вобласці да залатога юбілея СССР народны тэатр Мазырскага палаца культуры вырашыў паставіць рамантычную драму Мустая Карыма «Краіна Айгуль». Рэжысёр тэатра заслужаны работнік БССР М. Колас ездзіў у Башкірыю, сустракаўся з аўтарам п'есы, запісваў музыку, прыглядаўся да жыцця народа братняй рэспублікі.

Гэты спектакль быў паказаны на абласным аглядзе народных тэатраў. Спектакль усхвалявaў сваёй рамантычнай узнёсласцю, пачуццём палымянай любві да Радзімы. Адчувалася шмат цікавага ў рэжысёрскай і акцёрскай рабоце, у афармленні спектакля мастаком П. Захаравым. Музыка заслужанага артыста БАССР, заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР кампазітара Тагіра Карыма ўдала дапаўняе дзеянне на сцэне, стварае той эмацыянальны настрой, які так важны для рамантычнай драмы.

Народны тэатр Рагачоўскага дома культуры паставіў спектакль па драме К. Крапівы «З народам» (рэжысёр-пастаноўшчык заслужаны артыст Марыйскай АССР К. Катлінскі). «Твой дзядзя Міша» Г. Мдзівані — работа народнага тэатра Гомельскага палаца культуры бытавых паслуг (рэжысёр-пастаноўшчык І. Матросава). Драму В. Яжова «Салаўіная ноч» паказаў на аглядзе народны тэатр Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў. Паставіў гэты спектакль рэжысёр **А. Лісоўскі.**




Вокладкі кніг для дзяцей і юнацтва, якія выйшлі нядаўна ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Беларуская народная казка «Цудоўная дудка» (апрацоўка А. Якімовіча, малюнкі М. Гуціева), зборнік нарысаў «Рубяжы і крылы» (мастак Ю. Зайцаў), «Буслы над Бесяддзю» У. Старчанкі (мастак В. Бароўка), «Кляновы сок» М. Хведаровіча (мастак В. Бароўка), «За круглым акенцам» М. Бабарыка (мастак У. Пашчасцеў), «Хвядоскавы канікулы» Д. Слаўковіча (мастак С. Волкаў).

# У ЧАРОЎНАЙ КРАІНЕ НЯЗВЕДАНАГА

*Вялікая ўвага надаецца ў нашай краіне выхаванню маладога пакалення. Важным сродкам у фарміраванні характараў і густаў дзяцей з'яўляецца літаратура.*

*У гэтыя дні па ініцыятыве СП СССР у Маскве праходзіць Міжнародная сустрэча дзіцячых пісьменнікаў на тэму: «Пісьменнікі свету і выхаванне падрастаючага пакалення». У сустрэчы прымае ўдзел дэлегацыя беларускіх дзіцячых пісьменнікаў у складзе Алеся Якімовіча, Васіля Віткі, Эдзі Агняцвет, Васіля Хомчанкі.*

*Напярэдадні Тыдня дзіцячай літаратуры карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» меў гутарку ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» з загадчыкам рэдакцыі літаратуры для дзяцей сярэдняга і старэйшага ўзросту Аленай Васілевіч і загадчыкам рэдакцыі літаратуры для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту Сяргеем Міхальчуком.*

**— Сяргей Апанасавіч, раскажыце калі ласка, чым парадуе выдавецтва самых маленькіх чытачоў у гэтым годзе!**

— У апошні час мы выдалі шмат цікавых кніг. Сярод іх вылучаюцца паэтычныя зборнікі В. Лукшы «Аркестр», А. Лойкі «Каля млына», С. Шушкевіча «Колькі кіпцікаў у кошкі», Х. Мальцінскага «Вясёлыя вароты», В. Зуёнка «Сонечны клубочак» і іншыя. Добрую аповесць з жыцця сённяшніх школьнікаў напісаў П. Місько «Навасёлы». Выйшлі з друку новыя аповесці Д. Слаўковіча «Хвядоскавы канікулы», Ул. Машкова «Я сам», зборнік апавяданняў С. Грахоўскага «Агеньчык у акне», В. Хомчанкі «Я ўжо вялікі», «Алесева кніжка» К. Кірэенкі.

Кніжкі выдадзены ў прыгожым афармленні з добрымі малюнкамі. Разнастайныя па зместу, яны павінны выклікаць увагу юнага чытача.

Выдавецтва знаёміць дзяцей са здабыткамі братніх літаратур, узбагачаючы чытачоў духоўна, пашыраючы светапогляд. Разышліся па кнігарнях нядаўна выпушчаныя кнігі В. Цельпугова «Упартая лямпа» (зборнік апавяданняў пра У. І. Леніна), А. Талстога «Залаты ключык, або прыгоды Бураціна». З туркменскай мовы перакладзена аповесць-казка Б. Кербабаева «Вясёлыя Джапбакі», з нямецкай — кніга Б. Плудры «Боцман на крызе» — тры маленькія аповесці з сённяшняга жыцця нямецкіх дзяцей.

У сёлетнім плане выдавецтва — таксама шмат новых арыгінальных кніжак беларускіх аўтараў. Назаву зборнік вершаў Г. Бураўкіна «Тры казкі пра Зая», «Родныя напевы» — зборнік, у які ўвайшлі казкі, сабраныя і апрацаваныя У. Ф. Луцэвіч, жонкай народнага паэта Беларусі Я. Купалы, а таксама яе ўласныя творы. Мы практыкуем выданні выбранага дзіцячых пісьменнікаў. Сёлета выходзіць кніжка П. Пранузы «Ручаёк».

**— У чым, на вашу думку, Алена Сямёнаўна, асноўнае значэнне дзіцячай літаратуры! Якое месца вы адводзіце выхаваўчай ролі дзіцячай кнігі!**

— Не будзем аспрэчваць тую вядомую ісціну, што ў бурлівы паток літаратуры, якая заслужана тытулуецца дзіцячай, трапляюць нярэдка кніжкі, якія не варта было б, можа, і выдаваць... Я маю на ўвазе перш за ўсё нізкі мастацкі ўзровень такіх кніжак. (Гэты факт нельга ні абмінаць, ні замоўчваць — тым больш, калі гутарка ідзе пра выхаваўчую ролю дзіцячай літаратуры). Праўда, само азначэнне «дзіцячая літаратура» нярэдка як быццам абумоўлівае нейкую скідку і палёгку тым, хто яе стварае. Гэта маё асабістае меркаванне зрабілася перакананнем з таго часу, калі я звязала свой лёс з выдавецтвам і рэдакцыяй літаратуры для дзяцей. Вось як, напрыклад, нядаўна адзін вельмі таленавіты і вядомы паэт апраўдваў сваю не вельмі сур'ёзную рэдактуру паэтычнага зборніка другога паэта: «Галоўнае, каб у кніжцы быў пафас, а ў паэтычным майстэрстве дзеці ўсё роўна не разбяруцца...» А ўзровень таго «пафасу» быў такі, якога сабе самому наш паэт-рэдактар ні ў сваіх «дарослых» кнігах, ні ў кнігах для дзяцей не дазволіў бы. І не дазваляе, бо як мастак вельмі добра разумее, што пафас можа быць толькі там, дзе ёсць перш за ўсё шчырасць і перакананасць самога аўтара. Халодная ж рыторыка і пустаслоўе нічога агульнага з сапраўдным пафасам не маюць.

Аднак вернемся да нашага пытання. Перабольшыць выхаваўчую ролю літаратуры для дзяцей (як і літаратуры наогул) немагчыма. Кніга ўваходзіць у жыццё дзіцяці разам з першымі яго словамі, разам з яго першымі крокамі і першым зацікаўленым позіркам на свет. Няхай кожны з нас азірнецца ў думках на сваё ўласнае маленства, няхай успомніць тое ні з чым непараўнальнае свята, якое прынесла яму першая кніжка. Следам за ёй з'явілася другая, трэцяя... І якім дзівосным зрабіўся свет, колькі загадак загадалі і адгадалі нам кніжныя старонкі! Якія струны абудзілі яны ў некранутай дзіцячай душы і які сугучны водгук выклікалі ў ёй!

Вось адсюль, з гэтых першых водгукаў, і трэба, мусіць, пачынаць гутарку пра цудадзейную сілу кніжнага слова, пра яго ўздзеянне на дзіцячае сэрца і розум — іншымі словамі пра выхаваўчую ролю кнігі.

Я зусім не збіраюся аб'яўляць сябе навяўленай нігілісткай, аднак і не баюся, прызнацца, што я асабіста не прызнаю «падзелу» пісьменнікаў на дзіцячых і недзіцячых. Хіба не мы, дарослыя, з'яўляемся самымі першымі чытачамі дзіцячых пісьменнікаў, чытаючы іх творы сваім дзецям і ўнукам? І хіба разам з імі мы не радуемся і не смуткуем, не караем зло і не святкуем перамогу? Вядома, калі кніжка сапраўдная, калі яна напісана мастаком.

Скажыце, калі ласка, каму прыйдзе ў галаву называць дзіцячым пісьменнікам Віктора Гюго ці Этэль Ліліян Войніч? А на іх жа творах, на ўчынках герояў, акружаных арэолам рэвалюцыйнай рамантыкі, выхоўвалася даваеннае пакаленне піянерскага і камсамольскага ўзросту.

А хіба «праходзіў» па секцыі дзіцячай літаратуры Мікалай Астроўскі? А менавіта яго палымяныя словы былі запісаны ў дзённіку Зоі Касмадзям'янскай, у дзённіках і сэрцах тысяч і тысяч юнакоў і падлеткаў перадваенных гадоў.

Значыць, відаць, справа не толькі ў тым, каб называцца дзіцячым пісьменнікам. Справа, думаецца, зусім у іншым — куды больш складаным і сур'ёзным.

Дзіцячы пісьменнік. Яму патрэбна сапраўдная адвага і, несумненна,—талент. Бо, абраўшы сабе гэта высокае званне, ты вымушаны як бы перад усім светам узяць на сябе абавязак: «Я пішу для дзяцей, перш за ўсё бяру на сябе адказнасць быць іх настаўнікам, выхавацелем і праваднікам у Краіну Нязведанага»... А хто не ведае, як многа залежыць ад праваднікa. Усё адолець. Дайсці. Узняцца на вышыню, на якую ніхто яшчэ не ступаў.

Такім мне асабіста ўяўляецца абавязак дзіцячага пісьменніка. Вось чаму я нярэдка дзіўлюся той «лёгкости необыкновенной», з якой часам людзі «ідуць» у дзіцячыя пісьменнікі.

**— Алена Сямёнаўна, вы — аўтар некалькіх кніжак для дзяцей. Творы вашы палюбіліся чытачам і заваявалі шырокую вядомасць. Як вы самі ацэньваеце іх! У прыватнасці, тэтралогію «Пачакай, затрымайся».**

— У мяне, як і ў кожнага пісьменніка, ёсць больш ці менш удалыя апавяданні (можа, нават і кніжкі) для дзяцей. Аднак такіх, якія б сталі ўладарамі дзіцячых сэрцаў і дум — няма... Што ж датычыць тэтралогіі «Пачакай, затрымайся», дык хоць яна і напісана пра адно маленства і юнацтва — кніга гэта не дзіцячая. Так мне здаецца. Ці дакладней: **не толькі** для дзяцей.

**— Ці не змаглі б вы падзяліцца думкамі аб сённяшнім стане беларускай дзіцячай літаратуры, яе пошуках, дасягненнях!**

— Вызначальнай тэмай беларускай літаратуры для дзяцей і да сённяшняга дня ўсё яшчэ з'яўляецца вайна. Вельмі глыбокія раны пакінула яна ў сэрцах усіх нас... Пра вайну пісалі, бадай, усе беларускія пісьменнікі. Пісалі таксама кнігі для дзяцей Эдзі Агняцвет, Лідзія Арабей, Яўген Курто, Вячаслаў Марозаў, Галіна Васілеўская, Вольга Сіманава, Іван Сяркоў, Георгій Шыловіч, Алесь Шашкоў і многія іншыя. Аднак лепшую кнігу пра вайну напісалі, мусіць, самі дзеці. «Ніколі не забудзем» — так яны назвалі гэту кнігу пакут і мужнасці.

Выходзяць з друку і ўжо неўзабаве з'явяцца на паліцах кнігарань кнігі для дзяцей і на тэмы пасляваеннага жыцця, кнігі, прысвечаныя школе, нашым піянерам і школьнікам, нашым бесклапотным дашкалятам, каму кнігі чытаюць яшчэ дарослыя... Усё ж гаворка наша была б неправамоцнай, калі б мы не азірнуліся на тыя кнігі, якія заслужана ўвайшлі ў залаты фонд нашай літаратуры. Успомніце зноў-такі даваенныя: «Міколку-паравоза» Міхася Лынькова, «Палескіх рабінзонаў», «У краіне райскай птушкі», «ТВТ», «Амок» Янкі Маўра... Прайшлі дзесяцігоддзі з таго часу, як былі напісаны гэтыя кнігі, а на іх і сёння выхоўваюцца новыя пакаленні дзяцей і падлеткаў.

Адзнакай нязменнай павагі і ўвагі да літаратуры для дзяцей з'яўляецца прысуджэнне Янку Маўру Дзяржаўнай прэміі БССР.

У гэтым шчаслівым для беларускай дзіцячай літаратуры 1972 годзе Дзяржаўную прэмію рэспублікі атрымаў таксама выдатны майстар вершаванай казкі і дзіцячага верша Васіль Вітка.

**Высокая адзнака творчасці нашых выдатных пісьменнікаў, адзнака літаратуры для дзяцей — гэта і вялікі для ўсіх нас гонар, гэта і абавязак перад клапатлівай Радзімай і перад юнымі чытачамі — нашай зменай і нашай будучыняй.**



Сустрэчы, якія не забудуцца ні пісьменнікамі, ні юнымі чытачамі. Іван Шамякін, Алесь Якімовіч, Янка Брыль, Станіслаў Шушкевіч сярод дзяцей.

# СУЧАСНАСЦЬ

— ЛІТАРАТУРА — адна з тых галін мастацтва, якая заўсёды раней за іншыя знаходзіць шлях да чалавечага сэрца,— сказаў, адкрываючы пленум, старшыня праўлення СП БССР, народны паэт Беларусі **Максім Танк.**— І таму пытанні: за што яна змагаецца, што яна адстойвае, супраць чаго выступае, якую займае пазіцыю,— пытанні не абстрактныя. Адказ на іх дае магчымасць зрабіць найбольш правільную і аб'ектыўную ацэнку яе вартасці.

Як вядома, У. І. Ленін асабліва цаніў у літаратуры яе самастойныя адкрыцці, яе пазнавальныя функцыі, якія памагаюць дыягнаставаць і сінтэзаваць усе з'явы і працэсы ў нашым жыцці.

Але валодаць гэтымі якасцямі можа толькі літаратура, узброеная перадавым марксісцкім светапоглядам. І толькі такая літаратура здольна разабрацца ў складаных жыццёвых канфліктах і калізіях, бачыць новае і сігналізаваць аб яго з'яўленні раней, як гэта могуць зрабіць самыя празорлівыя статыстыкі і самыя дасканалыя лічыльныя машыны. Бо ў галіне духоўнага, псіхічнага жыцця, не думаю, каб яны змаглі замяніць мастака, пісьменніка з яго ведамі, талентам, інтэлектам і інтуіцыяй.

Беларуская літаратура, як і ўся наша шматнацыянальная савецкая літаратура, з першых дзён свайго існавання была вернай памочніцай партыі. Яна сумленна і праўдзіва адлюстроўвала такія знамянальныя падзеі ў жыцці народа, як станаўленне Савецкай улады, барацьба супраць чужаземных інтэрвентаў і контррэвалюцыі, часы індустрыялізацыі і калектывізацыі, змаганне за ўз'яднанне нашага народа ў адзінай сям'і, гераічная барацьба супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, слаўны подзвіг народа ў часы адбудовы разбуранай у вайну гаспадаркі, бурлівы наш сённяшні рост і росквіт.

Да гэтых тэм і сёння прыкавана ўвага нашай літаратуры, аб чым гавораць шматлікія творы, якія з'явіліся ў пасляваенныя гады.

Як вядома, у беларускай літаратуры доўгі час пераходны сцяг трымала паэзія. Гэта — з'ява, уласцівая ўсім маладым літаратурам. Паэзія з'яўляецца найбольш непасрэдным водгукам на падзеі свайго часу. Але сталасць кожнай літаратуры вымяраецца развіццём усіх яе жанраў. І нас усіх радуе тое, што за пасляваенныя гады наша проза, драматургія сталі прыкметнай з'явай усёй шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Але, мне здаецца, не зніжала свайго палёту і наша паэзія, якая далей плённа развівае слаўныя традыцыі Купалы, Коласа, Багдановіча. Тое, што наша літаратура развівалася ў цеснай дружбе з вялікай рускай літаратурай і з усёй шматнацыянальнай савецкай літаратурай, значна садзейнічала пашырэнню яе тэматычнага кругагляду, павышэнню ўзроўню яе майстэрства, росту яе сталасці і хутчэйшаму яе выхаду на ўсесаюзную і сусветную арэну.

Агулам узровень нашай сучаснай паэзіі досыць высокі і абнадзейваючы. І калі яна на агульным фоне не вылучаецца нейкімі асабліва яркімі ці звышмоднымі рысамі, дык, у кожным выпадку, яна да гэтага часу з належнай годнасцю прадстаўляла сваю рэспубліку. Як і раней, моцным яе бокам застаецца непасрэдная сувязь з жыццём свайго народа і з той зямлёй, адкуль бяруць пачатак яе пявучыя крыніцы.

Я не падзяляю поглядаў крайніх песімістаў, якія бачаць пагрозу ў стыхійным напльве шарызны (шэрыя вершы ва ўсе эпохі былі спадарожнікамі выдатных), як не падзяляю поглядаў і крайніх аптымістаў, якія, з'яўляючыся паэтычнымі дальтонікамі, бачаць усё ў ружовых колерах і страцілі здольнасць адрозніць, дзе сапраўдны дарагі самацвет, а дзе проста каляровы асколак шкла.

Перагортваючы старонкі новых паэтычных зборнікаў, газет, часопісаў, я ўсё больш пераконваюся, што наша паэзія, у якой працуе такі магутны атрад і старэйшых, і маладзейшых паэтаў,— пры большай патрабавальнасці рэдактараў і асабліва крытыкі, пры больш актыўных абмеркаваннях нашых твораў і спрэчках, пры своечасовым рэагаванні на заўвагі чытачоў,— магла б парадаваць большымі дасягненнямі. Усё яшчэ чакае свайго ўсебаковага глыбокага адлюстравання рабочая і сучасная тэма, якой мы павінны ўдзяліць значна больш увагі. Неяк прыцішана пачалі гучаць грамадзянскія матывы. Паэзія павінна ўмець гаварыць на ўвесь голас, а не толькі сцішаным шэптам.

Мы ўсе помнім плакат ваенных год, з якога глядзеў баец і пытаў: «Ці ўсё ты зрабіў для перамогі?» Кожны з нас павінен сумленна адказаць на гэтае пытанне і мабілізаваць усе свае сілы і здольнасці, каб адчувальным быў яго ўклад у перамогу ідэй камунізму. А для гэтага мала быць толькі пісьменнікам. Спецыфіка нашай працы патрабуе быць і прапагандыстам, і палітыкам, і грамадскім дзеячом, і актыўным удзельнікам сучасных нам падзей, і няспынна папаўняць свае веды. Гэта і ёсць тое, што мы называем сувяззю з жыццём. Нам трэба так перабудаваць сваю працу, каб часцей мы маглі бываць на заводах, фабрыках, новабудоўлях, у калгасах. Бо хоць творы пішуцца за сталом, але яны пішуцца тады, калі сэрца перапоўнена ўражаннямі, вочы — бачанымі краявідамі, воблікамі герояў, а слых — галасамі людзей, гулам стваральнай працы — самай радаснай і велічнай музыкай нашага часу.

Нашым пачэсным абавязкам з'яўляецца адлюстраванне велічнага подзвігу савецкага народа ў гулкай бронзе, у бессмяротных сімфоніях і ў нашай шматмоўнай вялікай савецкай літаратуры.

З дакладам «Сучаснасць і паэзія» выступіў намеснік старшыні праўлення СП БССР **Анатоль Грачанікаў.**

— Прайшоў год пасля прыняцця Пастановы ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы»,—сказаў дакладчык.— Гэта быў год, асветлены паўвекавым юбілеем Савецкай краіны, год далейшага руху нашага грамадства да найвышэйшага ўзроўню сацыяльнага, эканамічнага і навукова-тэхнічнага прагрэсу, год юбілеяў нашых класікаў — Я. Купалы і Я. Коласа.

Беларуская паэзія — адна з цікавейшых галін магутнага дрэва шматнацыянальнай савецкай паэзіі. Яна сілкуецца невычарпальнымі сокамі роднай зямлі, выпраменьваючы бессмяротную мелодыю дружбы і братэрства ўсіх працоўных людзей, мелодыю пераможнага шэсця ідэй камунізму па нашай планеце.

Шлях, пройдзены савецкім народам і партыяй ад XX да XXIV з'езда КПСС, з'явіўся новым этапам у развіцці беларускай літаратуры, і у прыватнасці — паэзіі. Яна расла разам з ростам нашага грамадства. Паглыбіўся сацыяльна-філасофскі змест паэзіі, узбагаціліся яе выяўленчыя сродкі, яна больш уважліва і чула пачала ставіцца да будзённых людскіх клопатаў і спраў. Рух сучаснай беларускай паэзіі па шляху даследавання самых глыбінных пластоў жыцця народнага, па шляху асэнсавання і адлюстравання працэсаў, якія адбываюцца ў нашым грамадстве, вызначаецца сёння творчасцю паэтаў розных пакаленняў.

Пра з'явы, якія адбываюцца ў сучаснай паэзіі, шмат гавораць і пішуць. Час ад часу разгараюцца нават дыскусіі аб змястоўнасці паэзіі, аб тым, як разумець яе грамадзянскасць, якой быць паэзіі ў будучым. Жыццё даказала: на дробязных, штучных канфліктах і сітуацыях сапраўдны мастацкі твор напісаць немагчыма. Асабліва адчувальны да фальшу, няшчырасці, схематычнасці паэтычны радок.

Паэзія нашых дзён у лепшых сваіх пошуках імкнецца адлюстроўваць праўду эпохі, багаты свет духоўнага жыцця нашага сучасніка, яго пачуцці і перажыванні, заглыбляючыся ва ўнутраныя складанасці чалавечай душы.

А. Грачанікаў ілюструе гэты тэзіс прыкладамі з новых твораў Максіма Лужаніна, Пімена Панчанкі, Аляксея Зарыцкага і інш. Нядаўна на сумесным пасяджэнні партыйнага бюро і прэзідыума праўлення СП БССР абмяркоўвалася новая кніга Міхася Калачынскага «Докшыцкі каравай», напісаная пад уражаннем паездкі, арганізаванай ЦК КПБ для пісьменнікаў. Пасля гэтага паэт часта наведваў хлебаробаў, гутарыў з многімі людзьмі. Новая кніга паэта пакідае добрае ўражанне.

Бурны поступ навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, далейшы рост дабрабыту народа напаўняе нашу паэзію новым зместам, узбагачае яе новымі тэмамі. Але цэнтральнай яе тэмай застаецца па-ранейшаму чалавек. І пытанне «Будучыня, якой ты будзеш?» перарастае ў пытанне: «Якім ты станеш, чалавек, якімі вы будзеце, нашы нашчадкі?» Асабліва востра прагучала яно ў кнігах П. Панчанкі «Снежань», В. Віткі «Праводзіны лета», С. Грахоўскага «Паэма дарог», Р. Барадуліна «Лінія перамены дат», А. Пысіна «Ідучы да людзей» і інш.

З новай сілай загучала ў нашай паэзіі апошніх год тэма Вялікай Айчыннай вайны. І ў гэтым ёсць хвалюючая заканамернасць: нельга ўявіць дарогу ў будучыню без глыбокага асэнсавання народнага гераізму і тых страт, якія панёс савецкі народ у імя шчасця нашчадкаў. Паэмы «Блакада» Р. Барадуліна, «Хатынскі снег» Г. Бураўкіна, «Гарынь» А. Бялевіча, «Блакітныя вербы» А. Бажко, «Недзяленя» Н. Гілевіча, «Рэквіем» А. Вярцінскага, «Вянок» і «Мая Хатынь» Е. Лось, новыя творы М. Арочкі, А. Астрэйкі, М. Барсток, А. Бачылы, С. Гаўрусёва, Хв. Жычкі, Г. Кляўко, А. Лойкі, В. Макарэвіча, П. Прыходзькі, У. Паўлава, Б. Спрынчана, Ю. Свіркі, Р. Тармолы, К. Цвіркі і іншых паэтаў высвечваюць новыя грані мужнасці і гераізму народа ў барацьбе з ворагам.

Лірычнага героя нашай сучаснай паэзіі хвалюе ўсё, што адбываецца ў свеце: лёс в'етнамскага селяніна на здратаванай амерыканскімі бомбамі зямлі і лёс бяздомнага арабскага фелаха, яго непакояць крывавыя падзеі ў Ольстэры і жабрацкае становішча неграў у нью-йоркскім гета, яго радуе пераможная музыка кубінскай рэвалюцыі і поспехі ўсіх народаў нашай краіны ў будаўніцтве новага грамадства.

Новыя кнігі «Між чырвоных рабін» і «Калі ласка» народнага паэта Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі, Героя Сацыялістычнай Працы Петруся Броўкі з'явіліся вялікай падзеяй у грамадскім і культурным жыцці нашай рэспублікі. Паэзія П. Броўкі — з'ява маштабу ўсесаюзнага. І ў новых сваіх кнігах паэт, застаючыся ўдумлівым лірыкам, узняўся на новую высокую творчую ступень. Паэт-грамадзянін, пясняр неперамажнага шэсця ленінскіх ідэй, ён так фармулюе ідэйную і маральна-эстэтычную задачу мастака-камуніста:

**Быць камуністам—**
**Гэта значыць**
**Штодня вышэй ісці ў палёт.**
**Быць камуністам—**
**Ясна бачыць**
**Наперад шмат на многа год.**
. . . . . . . . . . .
**Быць камуністам—**
**Шчырай працай**
**Ісці ў радах перадавых.**
**Быць камуністам—**
**Быць змаганцам**
**За светлы лёс людзей усіх.**

Сінтэз грамадскага і глыбока асабістага, уменне перажытыя падзеі і факты сваёй біяграфіі супаставіць з гістарычным шляхам народа і яго лёсам робіць паэзію П. Броўкі натуральна-пластычнай, сардэчнай, усхваляванай.

Глыбока народнай, партыйнай і палымянай назваў дакладчык новую кнігу народнага паэта Беларусі Максіма Танка «Хай будзе святло». Эпічнасць, маштабнасць, шырокі дыяпазон творчасці М. Танка здзіўляюць сваёй наватарскай сутнасцю. Паэзія М. Танка заглыбляецца ў мінулае, каб асэнсаваць сучаснае, заглыбляецца ў сучаснасць, каб акрэсліць шляхі, якія вядуць у будучыню. І, як заўсёды, у цэнтры яе галоўная тэма мастацтва—чалавек. Новы зборнік М. Танка—выключная з'ява паэзіі не толькі беларускай.

Напружана і плённа працаваў апошнія гады народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў. Яго новая паэма «Далёка да акіяна», зборнік вершаў «Сасна і бяроза», пераклады з І. Катлярэўскага, М. Лермантава, Г. Лангфэла— важкі ўклад у скарбніцу нацыянальнай культуры.

Дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы за мінулы год адзначана «Кніга ста песень» К. Кірэенкі. Паэт-інтэрнацыяналіст знайшоў ёмістыя вобразы і гарачыя словы, каб выказаць гарачую любоў да сваёй маці-Радзімы, каб выкрыць драпежніцкую сутнасць амерыканскага імперыялізму.

Грамадзянскім клопатам, роздумам над надзённымі праблемамі жыцця пазначана творчасць Г. Бураўкіна. Яго новая кніга вершаў «Жніво» адзначана літаратурнай прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі. Паэзія Г. Бураўкіна прыкметна вылучаецца сярод творчых пошукаў паэтаў сярэдняга пакалення публіцыстычнасцю, страснасцю, якія спалучаюцца з эмацыянальнай узнёсласцю і настраёвасцю. Паэт дасягнуў такога творчага этапа, на якім ад яго можна чакаць яшчэ глыбейшага пранікнення ў сут-

**У ПЕРАПЫНКУ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ**



М. Танк і П. Панчанка.



П. Броўка, А. Астрэйка, Ф. Янкоўскі.

# і паэзія

*З ПЛЕНУМА ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ*

насць жыццёвых з'яў,—пра гэта гавораць «Паэма расстання», паэма «Хатынскі снег», вершы апошняга часу.

У гэтым годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпускае ў свет новую паэтычную кнігу Я. Сіпакова «Веча славянскіх балад». Большасць іх друкавалася на старонках перыядычнага друку, і ёсць усе падставы меркаваць, што новая кніга Я. Сіпакова стане арыгінальнай з'явай нашай паэзіі, пашырыць яе тэматычны абсяг.

Добрае ўражанне, на думку дакладчыка, пакідаюць новыя кнігі Н. Гілевіча, Е. Лось і інш.

Падрабязна разгледзеў А. Грачанікаў тэму рабочага класа ў нашай паэзіі. Рабочая тэма — гэта перш за ўсё тэма складанага псіхалагічнага плана, яна ва ўмовах тэхнічнай рэвалюцыі набывае новыя формы і змест. Вялікая задача стаіць перад нашым мастацтвам — адлюстраваць чалавека сацыялістычнага грамадства, рабочага чалавека эпохі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, адлюстраваць праўдзіва, хвалююча, увекавечыць яго працоўны подзвіг сродкамі мастацтва і данесці да нашчадкаў ва ўсёй яго велічы. Але ў вырашэнні гэтай тэмы не павінна быць ніякіх скідак на актуальнасць.

Рабочая тэма хвалявала класікаў нашай літаратуры Я. Купалу і Я. Коласа, знайшла сваё пэўнае адлюстраванне ў творчасці М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, К. Кірэенкі, А. Русецкага, М. Аўрамчыка, А. Звонака, А. Зарыцкага, М. Хведаровіча, С. Шушкевіча і інш. Найбольш ярка выявілася яна ў творчасці апошніх год М. Аўрамчыка, асабліва ў салігорскім цыкле вершаў. Асцярожна, з разведкі паэтычнымі рэпартажамі пачалі асвойваць рабочую тэму Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Р. Тармола, Ул. Нядзведскі. Прыкметны след у распрацоўцы яе пакідае творчасць Б. Спрынчана.

Але ў вырашэнні праблемы «рабочы клас і літаратура» сродкамі паэзіі ў нас яшчэ шмат работы. Адчувальна гавораць пра сябе слабае веданне мастакамі слова сутнасці працэсаў, якія адбываюцца ў сучасным рабочым асяроддзі, адсутнасць трывалага кантакту з ім.

Дакладчык адзначыў, што на шырокай плыні сучаснай беларускай паэзіі побач з глыбокімі мясцінамі ёсць свае віры і перакаты, сваё мелкаводдзе. Побач з сапраўднай паэзіяй суседнічаюць падробкі пад яе, побач з глыбокімі думкамі— банальнасць, дробнатэмнасць, бесканфліктнасць. Асабліва трывожыць тое, што паэтычная прадукцыя нізкай якасці робіцца прадукцыяй шырокага спажывання: яе друкуюць газеты і часопісы, яна не залежваецца ў рукапісах на выдавецкіх паліцах. Як многа выходзіць у нас кніг прылізаных, гладзенькіх, напарфумаваных рэдактарскім пяром!

Дакладчык заклікаў спалучаць эстэтычную патрабавальнасць з беражлівымі адносінамі да таленту, да плённых творчых пошукаў, глыбіню аналізу з дакладнасцю ідэйных ацэнак, выкараняць суб'ектывізм, сяброўскія і групавыя прыхільнасці.

А. Грачанікаў адзначыў карысць праведзенай на старонках «ЛІМа» дыскусіі пра стан сучаснай паэзіі.

Некалькі заўваг зрабіў дакладчык адносна мовы паэтычных твораў. Як неашчадна, як неахайна ставімся мы часам да слова! Здаецца, многія з нас навучыліся многа і гучна гаварыць і развучыліся слухаць напеўную мелодыю роднай мовы.

Дакладчык прывёў канкрэтныя прыклады штучнай, надуманай вобразнасці, якая разгульвае па многіх сучасных вершах, прэтэндуючы на сучаснае светаўспрыманне.

Чытаючы крытычныя артыкулы, даследаванні, рэцэнзіі, прысвечаныя паэзіі, зазначыў А. Грачанікаў, пераконваешся ў тым, як вырасла за апошнія гады крытычная думка. Бачна імкненне разглядаць паэтычныя творы з пазіцый высокай патрабавальнасці, з улікам таго, што ўжо зроблена ў нашай паэзіі, з улікам дасягненняў паэтычнага слова ў братніх рэспубліках. Грунтоўнасцю, высокім прафесійным майстэрствам, на думку дакладчыка, вызначаюцца крытычныя працы аб паэзіі М. Арочкі, В. Бечыка, Д. Бугаёва, Р. Бярозкіна, Ул. Гніламёдава, А. Лойкі, В. Рагойшы, І. Ралько, Р. Шкрабы. І ўсё ж, шмат якія, нават буйныя з'явы ў паэзіі, не знаходзяць належнага крытычнага разгляду. Дагэтуль, напрыклад, не ацэнена крытыкай новая паэма А. Куляшова «Далёка да акіяна». А гэта твор складаны. Ён ніяк не ўкладваецца ў габарыты мерак, з якімі крытыкі звычайна падыходзяць да аналізу паэмы.

Наогул, паэмы апошніх год, а іх з'явілася нямала, чакаюць асобнай гаворкі, у якой павінны прыняць удзел і паэты, і крытыкі, і чытачы.

Няма грунтоўных крытычных прац, у якіх глыбока даследавалася б творчасць паэтаў сярэдняга пакалення, дзяцінства якіх абпаліла вайна і якія ўжо на подступах да свайго саракагоддзя ці перасягнулі гэты рубеж.

Даўно ўжо на старонках нашага друку, на пасяджэннях творчых секцый не было грунтоўнай гаворкі пра творчасць паэтаў, якія пішуць на рускай мове, хаця сярод іх ёсць сталыя майстры слова. Не ўдзяляе крытыка дастатковай увагі аналізу творчасці паэтаў, якія пішуць для дзяцей. А між тым наспела патрэба грунтоўна прааналізаваць здабыткі і недахопы гэтага жанра. У дзіцячай паэзіі надзвычай плённа працуе В. Вітка. За кнігі «Чытанка-маляванка», «Беларуская калыханка», «Казкі» яму ў мінулым годзе прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР. Шырока вядомы чытачам творы Э. Агняцвет, цікава пішуць С. Шушкевіч, Р. Барадулін, Х. Мальцінскі, С. Грахоўскі, Е. Лось, В. Вярба і інш.

Дакладчык спыніўся на разглядзе самай маладой плыні сучаснай беларускай паэзіі, падкрэсліў, што нельга сёння ўявіць нашай літаратуры без творчасці маладых.

Праблемы маладой паэзіі, па-сутнасці, тыя ж, што і ўсёй літаратуры, але ў творчасці маладых яны набываюць асаблівую вастрыню. Галоўны недахоп сённяшняй маладой паэзіі ў тым, на думку А. Грачанікава, што ў маладых зацягнуўся працэс выспявання грамадзянскасці, адчуваецца нясмеласць, а часам і проста няздольнасць глыбока пранікнуць у багаты і складаны свет нашага сучасніка. У маладых паэтаў мала пошукаў і мнагавата самазаспакоенасці, адсюль — камернасць і пасіўнасць шмат якіх твораў пачаткоўцаў.

Беларуская літаратура, працягвае дакладчык, за апошнія гады выйшла на шырокі жыццёвы прастор. Творы беларускіх пісьменнікаў выходзяць зараз у выдавецтвах Польшчы, ГДР, Балгарыі, Чэхаславакіі, Венгрыі, Італіі, ФРГ, Англіі, ЗША, Канады, Аўстраліі, Японіі. У бібліятэцы Саюза пісьменнікаў БССР сабраны творы беларускіх літаратараў, выдадзеныя больш чым на 20 мовах свету. У мінулым годзе з Лондана прыйшла да нас анталогія беларускай паэзіі ў перакладзе на англійскую мову, такія ж анталогіі выйшлі ў Польшчы, Балгарыі, Бельгіі. Рыхтуе да выдання анталогію нашай паэзіі на англійскай мове ў перакладах Уолтэра Мэя маскоўскае выдавецтва «Прагрэс». У той жа час на беларускай мове выйшлі сотні твораў таленавітых мастакоў слова з братніх рэспублік, якія з глыбокай пераканаўчасцю апяваюць веліч працоўных і ратных спраў будаўніка новага грамадства, глыбіню яго інтэрнацыянальных пачуццяў і душэўную прыгажосць. Па-беларуску загучалі вершы аварца Р. Гамзатава і узбечкі Зульфіі, народнага паэта Латвіі Я. Судрабкална і калмыка М. Ханінава, украінца М. Нагнібяды і літоўскай паэтэсы С. Нерыс. Цікавай падзеяй у літаратурным жыцці рэспублікі стала выданне на беларускай мове «Лірыкі» М. Някрасава, паэмы «Уладзімір Ільіч Ленін» Ул. Маякоўскага ў перакладзе народнага паэта П. Броўкі, «Выбранага» А. Кунанбаева, «Песень Арменіі» Г. Эміна, «Лірыкі» А. Туманяна, зборніка вершаў Закі Нуры.

Асабліва актыўна і плённа ў галіне перакладу працуе народны паэт Беларусі А. Куляшоў. Свой уклад у справу ўзаемаўзбагачэння культур уносяць М. Танк, М. Лужанін, Я. Семяжон, Э. Агняцвет, Р. Барадулін, Н. Гілевіч, В. Зуёнак, Ю. Гаўрук, А. Зарыцкі, М. Хведаровіч і інш.

Аднак ужо сёння трэба падумаць аб падрыхтоўцы нацыянальных кадраў перакладчыкаў, асабліва з заходніх моў. Выклікае заклапочанасць і стан перакладу беларускай паэзіі на мовы народаў СССР. Паэты сярэдняга і малодшага пакаленняў не маюць трывалых кантактаў са сваімі калегамі з іншых братніх рэспублік. А ў нас жа даўнія традыцыі дружбы — беларускай літаратурай цікавіліся М. Горкі, М. Ісакоўскі, А. Твардоўскі, А. Пракоф'еў.

Прапанаваўшы «ўзаконіць» штогадовае правядзенне ў рэспубліцы свята паэзіі, А. Грачанікаў выказвае пажаданне, каб на яго прыязджалі госці з усіх рэспублік Саюза.

Наша паэзія, заключае дакладчык, не замыкаецца ў вузканацыянальных рамках, узбагачаецца жывым зместам рэчаіснасці, клопатамі ўсёй савецкай зямлі. Характар паэзіі змяняецца, але застаюцца ў ёй асноўнымі, нязменнымі прынцыпы партыйнасці і народнасці мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

У магутным хоры літаратур народаў СССР прыметна і своеасабліва гучаць галасы беларускіх паэтаў. Мы бясконца рады, што нам выпала шчасце зброяй свайго слова змагацца за ажыццяўленне неўміручых ідэй Леніна, за мірнае супрацоўніцтва паміж народамі, за перамогу камунізму. Беларуская паэзія, прасякнутая высокай ідэйнасцю, духам партыйнасці і народнасці, трывала звязаная з жыццём, часам, народам, будзе і далей верным памочнікам партыі ў справе вялікага пераўтварэння грамадства на камуністычных асновах.

Удзельнікі пленума, якія выступілі ў спрэчках, гаварылі аб высокім грамадзянскім абавязку паэзіі, аб партыйнай адказнасці мастака.

**Алег Лойка** падкрэсліў неабходнасць разглядаць вершы нашых паэтаў з пункту гледжання таго, наколькі яны блізкія свайму часу, народу. Трэба ставіць эстэтычныя і сацыялагічныя крытэрыі, даваць аналіз паэзіі ў святле сацыяльным, у святле барацьбы за вялікую перамогу, якой мы аддаем свае сэрцы. А. Лойка падаў прыклады вершаў шаблонных, стэрэатыпных, той рытарычнай агульшчыны, якая даўно ўжо адкінута развіццём нашай лірыкі. Ён заклікаў да большай увагі ў адносінах да творчай моладзі. Няма ў нас крытыкі перакладаў, зазначыў А. Лойка. Часцей за ўсё рэцэнзіі на перакладныя творы суб'ектыўныя, не маюць дачынення да праблем перакладчыцкіх.

**Анатоль Вялюгін** падрэсліў важнасць рабочай тэмы ў нашай паэзіі. Рабочы клас—самы перадавы, самы інтэрнацыяналісцкі. Ён адыгрывае велізарную ролю ў працэсе збліжэння ўсіх народнасцей і нацыянальнасцей нашай краіны. У гэтым працэсе важнае значэнне маюць таксама пераклады. Беларускую паэзію даносяць да свайго чытача Я. Хялемскі і М. Нагнібяда, М. Ушакоў і Р. Казакова і многія іншыя.

А. Вялюгін спыніўся на разглядзе зборніка «Дзень паэзіі. 1972», у якім, на яго думку, змешчана шмат шэрых, невыразных вершаў.

Сапраўдная паэзія не можа не быць сучаснай, сказаў у сваім выступленні **Анатоль Вярцінскі**, бо яна не можа быць абыякавай да акаляючага яе жыцця, не можа не імкнуцца тварыць гэтае жыццё, імкнуцца зрабіць явай «жыццё, якім яно павінна быць». Мы павінны прыслухоўвацца да гулу сучаснага грамадскага жыцця, яго вызначальных тэндэнцый.

Галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» **Анатоль Кудравец** гаварыў аб узаемаадносінах выдавецтва з аўтарамі. Побач з добрымі кніжкамі, сказаў ён, нам прапануюць і многа пасрэдных. Часамі цяжка аўтару такой рукапіснай кнігі растлумачыць, чаму выдавецтва не зможа яе надрукаваць. Здаецца, усё ёсць: рыфма і тэма, ёсць некаторы сярэдні ўзровень, але ж няма паэзіі, няма навізны думкі, вобраза, няма гарэння. Шкада, што такія зборнікі нясуць не толькі пачаткоўцы, але і паэты з салідным літаратурным стажам.

**Мікола Арочка** падкрэсліў, што сёння паэзія ў цэнтры ўвагі літаратурнай грамадскасці, ёй прысвячаюцца пленумы, нарады, дыскусіі. Паэзія старэйшага пакалення моцная сваёй грамадзянскасцю, сацыяльным пафасам, канцэптуальнасцю. А сёння мы часам называем мужнымі творы, якія не вымагаюць ад аўтара ніякай мужнасці, з'явіліся спробы ціхаплыннай, пейзажна-інтымнай лірыкі. Паэзія, узгадаваная ў асабістым ліра-інтымным зацішку, поўнасцю засведчыла нежаданне кранацца набалелых праблем жыцця. Як бы мы ні грэліся пры цяпельцы некаторых, у мастацкім сэнсе досыць прыстойных. сцішана задуменных талентаў, а ўсё ж застаецца ўражанне пэўнай лакальнасці, звужанасці кантакту з чытачом, недастатковай шматмернасці духоўных сувязей з бурлівым ходам жыцця.

Галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» **Хведар Жычка** адзначыў, што наша паэзія вырасла, узмужнела, мае здабыткі сусветнага значэння. Але гэта не азначае, што мы павінны пусціць на самацёк яе развіццё. Задача паэзіі не толькі адлюстраваць, але і ўздзейнічаць на душы і розум людзей, фармаваць іх светапогляд. І тут было б карысна паслухаць тых, для каго мы пішам, пачуць іх думкі. Шкада, што на нашых пленумах рэдкімі гасцямі бываюць бібліятэкары, прадстаўнікі кнігагандлю, настаўнікі, чытачы. Хв. Жычка гаварыў пра адрыў ад сучаснасці некаторых паэтаў, пра клопаты літаратурных аб'яднанняў, пра недахопы крытыкі паэзіі.

**Алесь Яскевіч** прысвяціў сваё выступленне праблемам вершаскладання, **Язэп Семяжон** — пытанням перакладу. Аб праблемах выхавання маладых паэтаў гаварылі **Юрка Голуб** і **Давід Сімановіч**. Сучаснай песні прысвяціў свае слова **Авяр'ян Дзяржынскі**. Дырэктар Беларускага аддзялення Усесаюзнага ўпраўлення па ахове аўтарскіх правоў **Эдуард Валасевіч** пазнаёміў прысутных са зменамі ў аўтарскім праве.

З прамовай на пленуме выступіў старшыня творчага аб'яднання паэтаў Маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі **Уладзімір Сакалоў**.

Пленум прыняў адпаведную паставу.

●

Пленум разгледзеў таксама арганізацыйныя пытанні.

У сувязі з тым, што М. Ткачоў прызначаны дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», пленум вызваліў яго ад абавязкаў адказнага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, выказаўшы падзяку за добрасумленную плённую працу. Адказным сакратаром праўлення СП БССР выбраны А. Кулакоўскі. Галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Хв. Жычка ўведзены ў склад прэзідыума праўлення СП БССР.



М. Гарбачоў, У. Сакалоў, А. Куляшоў. Фота Ул. КРУКА.

Антон БЯЛЕВІЧ



# У СКАРГАХ ПЕРАСПЕЛАГА ЖЫТА

**Яшчэ на пачатку трыццатых гадоў пашанцавала мне спаткацца, пазнаёміцца, пасябраваць са славутым пісьменнікам Кузьмой Чорным.**

**Вельмі быў я ўдзячны яму, шчыраму, добраму чалавеку, за яго разумныя парады, цікавыя гутаркі пра жыццё, пра паэзію, прозу. Нібы напятая пад смычком струна, адклікалася пяшчотная, шчырая душа Кузьмы Чорнага на ўсе радасці і журботы чалавечыя. Цяжкія дарогі вайны правялі нас праз гора і смутак да свята нашай перамогі. Пра майго добрага настаўніка, разумнага дарадчыка, пра чалавека вялікага сэрца, напісаў я паэму «У скаргах пераспелага жыта».**

**Прапаную ўрывак з паэмы.**

АЎТАР.

*Вайны бязлітасны агонь,*
*Бушуе ў хвалях жыта;*
*Канчаецца пры жыцце конь.*
*Хлапчук, слязамі ўмыты,*
*Сядзіць самотны пры кані*
*І тузае за грыву:*
*— Ты паміраеш? Не мані,*
*Устань, мой конік сівы.*
*Мяне ж дадому не давёз,*
*Нам блізка, родны конік,*
*Не бойся: плёткай у абоз*
*Улан больш не пагоніць.*
*Зірні: над ім счарнелы крыж.*
*Крумкач над ім лятае.*
*Паслухай, конік: за Нясвіж*
*Вайна ўжо адступае.*
*Бягуць шляхецкія палкі,*
*Пілсудскаму — магіла!*
*Да нас ідуць бальшавікі,*
*За імі праўда, сіла!*
*Зямля — ў агні,*
*Зямля — ў крыві,*
*Зямля — ў вялікіх бурах.*
*А я — жыву! І ты — жыві!*
*Не памірай жа, дурань!*
*У вочы ён каню глядзеў,*
*А той стагнаў ад болю,*
*Бы чалавек, які ў нудзе*
*Пакутваў без паталі...*

*Магілу выграб сам сабе,*
*Устаць не мае сілы,*
*І капытамі не шкрабе,*
*Сканаў. Ляжыць, астылы.*
*Прымоўкнуў хлопчык у журбе,*
*А гора — галасіла.*
*Паклаў дугу, аброць, хамут,*
*Абознік на павозку.*
*«Ну, нельга ж ёй стаяць вось*
*тут,*
*Павалаку да вёскі».*

*Аглоблі — ў рукі. Валачэ!*
*Не хочуць бегчы колы.*
*А слёзы коцяцца з вачэй,*
*Салоны пот яго пячэ,*
*Бядуе ў сумным полі*
*Хлапчук, маленькі чалавек,*
*Замораны, аслаблы.*
*«Гукнуць бы бацьку? Дык засек*
*Пілсудчык бацьку шабляй.*
*Гукнуць бы маму? Дык яна*
*У сырой зямлі таксама.*
*Не адгукаецца труна,*
*Не адгукнецца мама.*
*Гукнуць бы брата?*
*На вайне,*
*Даўно пакінуў вёску.*
*Цягнуць павозку трэба мне,*
*Прыліпнула павозка*
*Да чорных, жоўтых калявін,*
*Замешаных на гліне...*
*Гукнуць бы хлопцаў*
*ці мужчын?*
*Яны па ўсёй краіне*
*Рассеяны, як цыганы,*
*І гразь, і снег мясілі.*
*Я чуў, што выгнаны яны*
*Бядой і голадам вайны*
*У братнюю Расію.*
*Туды б і мне даўно ўцячы*
*З маёй горкай долі?*
*А я — не ўцёк. Ну хоць крычы,*
*Ну хоць кукуй у полі!..»*
*Узяў дугу, аброць, хамут,*
*Пяньковыя ляйчыны.*

*Глядзіць: счарнелі ад пакут*
*Узгоркі і лагчыны,*
*Галосіць кут,*
*Ахрыпнуў кут,*
*Як голас крумкачыны;*

*Крумкач стлусцелы на крыжы,*
*Адрыгвае крумкоча;*
*На ўзмежку цётухна ляжыць,*
*Крумкач ёй выдраў вочы...*
*Вось клыпае дзядок чужы;*
*Спытаў: — Куды, сыночак?*
*— Абознік я. Мяне ў агонь*
*Пагнаў пілсудчык з вёскі.*
*Іду дамоў. Забіты конь,*
*Не давалок павозку.*
*А вы адкуль?*
*— Мяне, сынок,*
*Вятрыскі панасілі.*
*Я — бежанец. У свой куток*
*Іду даўно, іду здалёк,*
*З вялікае Расіі.*
*Уцёк ад лютае вайны,*
*Даплёўся аж да Волгі...*
*Багата бежанцаў. Яны*
*Цяпер дарогай доўгай*
*Ідуць назад,*
*Да родных хат,*
*Да гумнаў і свіронкаў.*
*А іх вайна глынула шмат,*
*Паранена старонка.*

*Вялікі боль... Пякучы сум*
*Мне сэрца апякае.*
*От косці я сваё нясу,*
*А хто іх там чакае?*
*Мо ні кала і ні двара,*
*І на труну ні дошкі?*
*Эх, сынку, цяжкая пара...—*
*Ён паўздыхаў, пабожкаў,*
*Паплёўся ў дзедаў, бацькаў*
*кут,*
*Дадому павалокся...*
*Надзеў абознічак хамут*
*На шыю, як запрогся,*
*Нібыта конь, у хамуце,*
*Дуга вісіць на шыі.*
*Ідзе, стаміўся, прапацеў,*
*Сарочку потам мые.*

*Пляцецца, хоць не еў, не спаў,*
*Хоць скрухаю агорнут...*
*Пісьменнік гэта прыгадаў,*
*Таму, магчыма, ён і стаў*
*Тады Кузьмою Чорным?*

*І сам ён быў у тыя дні*
*Увесь у бурах, у агні,*
*Маланкай апавіты.*
*У той трывожнай цішыні,*
*У горкіх скаргах жыта,*
*З якога зерні аплылі*
*На высахлую глебу,—*
*Пачуў жахлівы крык зямлі,*
*Засмужанага неба;*

*Лясоў апаленых, травы,*
*Пажоўклай, пераспелай,*
*«Сяўцы, касцы! Прыходзьце ж*
*вы!» —*
*Крычаў душой збалелай...*
*Сцяжынка бегла ў паплавы,*
*Дзе за кустамі жураўы*
*Маўчалі анямела.*
*Шчымлівай песняю сваёй*
*Не краталі трывогу.*
*А ён, авеяны смугой,*
*Ішоў; вяла дарога*
*Да цімкавіцкіх сасняков,*
*Да іх палянак шчырых,*
*Да працавітых землякоў,*
*Тварыцкіх і Няміраў;*

*Убачыць там Ракуцьку ён,*
*І Леапольда Гушку;*
*Жыццё старых і новых дзён*
*Прыкмеціць ён, відушчы;*

*Яго сустрэне шчыра дуб,*
*Якому хораша на чуб,*
*Садзіцца сонца ўвечар;*
*Якому добры вецер*
*Калыша ў кроне жалуды,*
*Нібы сынкоў крамяных...*
*Ішлі гады,*
*Раслі сады,*
*Раслі яго раманы.*
*Іх глыбіню, ходу падзей,*
*З высокай праўдай зверыў;*
*Пакуты, радасці людзей —*
*Ён перадаў паперы.*

*Яна зрабілася жывой,*
*Рыдала і спявала;*
*То напаўнялася слязой,*
*То весялосцю, то журбой,*
*То бурай бушавала...*
*Пяро, шліфавана зарой,*
*Пяруннай сілай стала.*

АДНОЙЧЫ двое мужчын-грыбнікоў апынуліся ў цёплы сонечны дзень каля тоўстай і гонкай бярозы, відаць, роднай мамы многіх соцень сваіх вясёлых і дзябёлых дачок. Адзін з мужчын узрадавана ўсміхнуўся і пачаў ласкава гладзіць далонню карабатую шэрую кару дрэва, пазіраючы ў захапленні на ўзнятую пад сіняе неба магутную карону. Кепка ў яго звалілася, а ён усё пазіраў, як зачараваны, на высокі светлазялёны шацёр. А другі грыбнік зняў свой саламяны капялюш, таксама павёў паволі позіркам па камлі ад нізу да вершаліны і тут жа залемантаваў:

— Ай-яй-яй! Пэўныя чатыры кубаметры дроў! Во вымахала, зараза!

Мне прыпомніўся гэты выпадак у Талькаўскім лясніцтве, калі я чытаў апавяданне Алеся Рыбака «Паездка ў Святчыцы» з яго першага зборніка «Дарогі бываюць розныя», які выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Два студэнты-дружбакі, Вадзім і Косця, марылі, што яны пасля вучобы абодва паедуць у самыя глухія палескія куткі сеяць разумнае, добрае, вечнае.

Але пасля заканчэння універсітэта дарогі сяброў разышліся. Косцю накіравалі працаваць на вёску, а Вадзім стаў журналістам. Толькі юнацкая дружба не забываецца. Праз год Вадзім паехаў паглядзець, як жыве Косця. Сустрэча з сябрам і яго прыгожай жонкай Анютай была радаснай. Вадзіму ўсё ў іх падабалася. Радавала ўладкаванасць Косці і асабліва прысядзібны бярозавы гай. У спякотны дзень гай здаваўся Вадзіму райскім куточкам.

«На вялікім пятаку, мо так сотак у дзесяць, ён налічыў аж сто дзве беластвольныя прыгажуні. Яны раслі купкамі, па тры—чатыры ў адным гняздзе. Вадзіму, калі ён любаваўся імі, часам здавалася, што гэта нават не бярозы, а танклявыя прыгажуні-

А Рыбак. «Дарогі бываюць розныя». Апавяданні і гумарэскі. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1972 г.

# ЗА СВАЁ, НЕПАЎТОРНАЕ

Новы зборнік Уладзіміра Карызны «Святло ліўня» пакідае двайстае ўражанне. З аднаго боку, назіраеш тут пэўныя творчыя зрухі, па якіх і мяркуеш аб росце паэта, з другога — нешта не задавальняе, засмучае...

Перш за ўсё хацелася б адзначыць, як набытак, паэму «Гром над дарогай».

Пачынаецца яна без звычайнага ўступу і складаецца з невялікіх раздзельчыкаў, якія, на першы погляд, бязладна «пераправаны». Але пасля разумееш, што гэта не выпадкова — звыклае жыццё, душэўны спакой лірычнага героя парушаны. Думкі яго вяртаюцца то ў гады маленства, то ў сённяшні дзень. На экране памяці перад сынам-гараджанінам мільгаюць кадры жыцця маці ў вёсцы...

Менавіта ўсё гэта і прадыктавала Ул. Карызну па-свойму арыгінальную кампазіцыйную будову паэмы, кожны кавалачак якой прасякнуты смуткам

Ул. Карызна. «Святло ліўня». Вершы, паэма. Мінск, «Беларусь», 1972.

Алесь РАМАНЕНКА

# ПРА АНДРЭЙКУ

АБРАЗКІ

## ТОЛЬКІ НІКОМУ НЕ КАЖЫ



Яны крочылі з дзіцячага садзіка. Хлопчык, трымаючыся за бацькаву руку, весела перабіраў ножкамі. На вуліцы цямнела. Паказваліся першыя зоркі. З-за лесу, што віднеўся за будынкамі, нясмела выплываў сярпок месяца.

— Татачка, — раптам папрасіўся Андрэйка,— пабудзі мяне заўтра на світанку.

— Навошта, сынку? — спытаўся бацька.— Заўтра нядзеля, усе дзеткі спяць дома і садзік адпачывае.

— А ты мяне ўсё роўна пабудзі, — не адставаў хлопчык. — Я табе пакажу нешта цікавае...

— Добра, — згадзіўся бацька.

Павячэралі.

Перад сном Андрэйка яшчэ разок напомніў бацьку, каб ён не забыўся пра сваё абяцанне.

А назаўтра, калі яшчэ на вуліцы было сіненька, прачнуўся бацька. Яго вельмі цікавіла, што надумаў сынок. Ён падышоў да ложка, у якім спаў Андрэйка, і ціхенька паказытаў яму твары. Андрэйка адразу ўскочыў, працёр кулачком вочкі і трывожна запытаўся ў бацькі:

— А сонейка яшчэ спіць?

— Можа і спіць, — адказаў бацька.

— Не, татачка, сонейка ўжо не спіць, — усхвалявана загаварыў хлопчык. — Бачыш, на вуліцы відна! Сонейка ўжо купаецца...

— Дзе?

— Зараз пакажу.

Ён хацеў вылезці з ложка сам, але бацька падхапіў яго на рукі і паднёс да акна. На небе яшчэ блішчэлі зоркі. За лесам, што віднеўся праз акно, пачынаў палымнець небасхіл.

— Унь там, за елкамі, у вялікай вогненнай сажалцы купаецца сонейка. А потым яно дастае з неба вунь той грабеньчык, — Андрэйка паказаў пальчыкам на белы сярпок месяца, — і расчэсвае ім свае чырвоныя валасы... Толькі нікому-нікому не кажы! Не скажаш?

— Добра. Але адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — здзівіўся бацька. — І чаму нікому не казаць?

Хлопчык шчыльней прыціснуўся да бацькі і таямніча прашаптаў:

— Гэта вялікі сакрэт, тата... У дзіцячым садзіку пра сонейка ведаем толькі мы ўдваіх — я і Лёнька... Яму мамка сказала!

## ВЯСЁЛКА



У пакой праз адчыненыя дзверы ўрываўся вецер, і шчодра сыпала промні сонца. Маленькі

# СПАДАРОЖНІК ПАКАЛЕННЯЎ




*27 сакавіка — Міжнародны дзень тэатра. Сёлета ён адзначаецца напярэдадні знамянальнай даты ў гісторыі сусветнай культуры — 150-годдзя з дня нараджэння вялікага рускага драматурга Аляксандра Мікалаевіча Астроўскага.*

*Літаратурная спадчына гэтага пісьменніка з цягам часу не старэе, і кожнае новае пакаленне адкрывае ў яго драмах і камедыях па-мастацку асэнсаваныя актыўныя грамадзянскія пачуцці—гнеў супраць прыгнёту і цёмнага царства, дзе грошы і адны толькі грошы вызначаюць лёс чалавека, і высакародную павагу да натур свабодалюбівых, сумленных, бунтарскіх.*

*Вялікі Кастрычнік 1917 года не перакрэсліў імя Астроўскага на тэатральных афішах. Працоўныя масы, якія атрымалі права на высокае мастацтва, у вобразах яго п'ес бачылі і бачаць той свет, што адыходзіць у гісторыю, тых цемрашалаў і паноў, супраць якіх паўсталі рабочыя, сяляне і салдаты на абшарах былой Расійскай імперыі.*

*У артыкуле У. І. Леніна «Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу?» яшчэ тады, у кастрычніку семнаццатага, гаварылася, што неабходна стварыць такія ўмовы, пры якіх «...усякі Ціт Ціты ч будзе а к р у ж а н ы, як француз пад Седанам. Гэтых Ціт Цітычаў мы ведаем паімённа: дастаткова ўзяць спісы дырэктараў, членаў праўлення, буйных акцыянераў і т. п.»*

*Ужо сам гэты факт, што правадыр рэвалюцыі называе капіталістаў мянушкай, якая сышла з тэатральных падмосткаў, дзе іграўся Астроўскі, ёсць штосьці асабліва хвалюючае для ўсіх, хто ведае і любіць творчасць выдатнага драматурга.*

*На паліцах асабістай бібліятэкі У. І. Леніна ў Крамлі захоўваліся творы А. М. Астроўскага (у тым ліку і тамы першага савецкага выдання Збору твораў), крытычная літаратура аб ім і юбілейныя працы, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, якое адзначалася ў 1923 годзе.*

*Астроўскі сваім словам і мастацкімі вобразамі ўдзельнічае ў перабудове грамадства.*

*Багатая сцэнічная гісторыя пастановак п'ес Астроўскага сведчыць аб тым, што сапраўдны эпічны размах і драматычнае напружанне дзеі, характэрныя для лепшых твораў драматурга, аднолькава хвалююць і знаўцаў тэатра, і тых, хто ўспрымае відовішча зусім непасрэдна. «Чараўнік мовы», паводле М. Горкага, ён захапляе багаццем і сакавітай маляўнічасцю слова. Вялікая і жанравая амплітуда драматургічнай спадчыны Астроўскага—ад казкі («Снягурачка») да высокай трагедыі амаль сімвалічнага гучання («Навальніца»), ад камедыі-гратэска («Гарачае сэрца») да меладрамы («Без віны вінаватыя»). У галерэі любімых сцэнічных герояў з народа пачэснае месца займаюць Жадаў («Даходнае месца») і Кацярына з Кулігіным («Навальніца»), Ларыса («Беспасажніца») і Кручыніна («Без віны вінаватыя»), Мелузаў («Таленты і паклоннікі») і Карпелаў («Запрацаваны хлеб»). А розныя Ціты Цітычы («На чужым балю пахмелле») або Дзікія з Кабаніхамі («Навальніца»), Кнуравы або Градабоевы і Хлынавы («Беспасажніца» і «Гарачае сэрца»), Гурмыжскія і Васьмібратавы («Лес), зрабіліся «крылатымі імёнамі», як увасабленне драпежнага цынізму і грамадскага самадурства.*

*Астроўскі лічыцца традыцыйным рэалістам. Але патэнцыял яго твораў такі глыбокі, што яны даюць пажыву для самых смелых эксперыментаў і шуканняў рэжысуры. Арыгінальнейшымі спектаклямі былі, скажам, мхатаўскае «Гарачае сэрца» К. Станіслаўскага, пралеткультаўскі «На ўсякага мудраца хапае прастаты» С. Эйзенштэйна або «Лес» Ус. Меерхольда... Драматургія Астроўскага пакідае дарагія старонкі і ў біяграфіях тэатраў, і ў біяграфіях выдатных савецкіх артыстаў. Масквін і Карчагіна-Александроўская, Ішантураева і Ржэцкая, Ужвій і Глебаў, Аляксандр Ільінскі і Чаркасаў, Уладзімір Уладамірскі і Кадыкеева, Бабанава і Кашэльнікава, Шэлег Ватуля, Рахленка і Трус... Колькі выдатных дзеячоў сцэны братніх народаў СССР гартавала талент і ўзнімалася на вяршыні натхнёнай творчасці, чэрпаючы непаўторнае багацце і хараство з бясконцай крыніцы — спадчыны Астроўскага!*

*Беларускі тэатр дае прыклады сапраўды творчага, самастойнага і глыбокага асэнсавання ідэй і вобразаў выдатнага драматурга. Перакладзеныя на родную мову К. Крапівой, К. Чорным, Я. Скрыганам, Ю. Гаўруком, п'есы Астроўскага набывалі і набываюць арыгінальнае гучанне на сцэнах нашай рэспублікі. Яны з'яўляюцца своеасаблівай і плённай школай для нацыянальных артыстычных сіл у раскрыцці праўды жыцця, ярка, у дыялектычнай супярэчлівасці і ў ясным рэвалюцыйна-дэмакратычным пафасе адлюстраванай гэтым знаўцам сутнасці і нораваў таго свету, што ўжо стаў у грамадскім развіцці краіны далёкім мінулым.*

*Тонкі мастак, Астроўскі, калі яго чытаць без «каментатарскіх акуляраў», зачароўвае і здзіўляе непасрэднасцю мастацкага адкрыцця—чалавека, асяроддзя, месца падзей. У чым сакрэт такога ўздзеяння драматычнай літаратуры на нас?*

*Звяртаюся з гэтым пытаннем да артыста тэатра імя Я. Купалы, у творчым даробку якога былі такія бліскучыя работы, як Дармедонт («Позняе каханне») і Белагубаў («Даходнае месца»).*



**«На ўсякага мудраца хапае прастаты». Народныя артысты СССР Г. Глебаў (Мамаеў) і Л. Рахленка (Круціцкі). Тэатр імя Я. Купалы.**



**«Без віны вінаватыя». Народны артыст БССР М. Яроменка (Мураў) і заслужаная артыстка БССР Т. Аляксеева (Кручыніна). Тэатр імя Я. Купалы.**



**«Даходнае месца». Народныя артысты СССР З. Стома (Белагубаў) і Ул. Уладамірскі (Юсаў). Тэатр імя Я. Купалы.**

### Здзіслаў СТОМА,

**народны артыст СССР:**

— Талент... Вядома, талент. І непасрэднасць душы, здатнай адкрываць хараство навакольнага свету. З лёгкай рукі выдатнага рускага рэжысёра Аляксея Папова мы, работнікі тэатра, даволі часта спасылаемся на запіс Астроўскага ў дзённіку. Паслухайце цытату:

«...На тым баку Волгі, проста насупраць горада, — запісваў драматург у Кастраме, — два сялы; асабліва маляўнічае адно, ад якога да самай Волгі раскінуліся кудзеры гаю; сонца, хаваючыся за небасхіл, неяк дзівосна гасне ў ім... Я пакутваў, гледзячы на гэта. Прырода — ты каханка верная, толькі надта юрлівая; колькі ні любі цябе, ты ўсё не задаволена; неспатоленае пачуццё гарыць у тваіх вачах, і як ні кляніся табе, што няма сіл задаволіць тваю смагу,— ты не злуеш, не адыходзіш прэч, а ўсё глядзіш сваімі гарачымі вачыма, і гэты поўны чакання позірк — кара і пакута для чалавека.

Скатаваны вярнуўся дамоў, і доўга не мог заснуць. Нейкі адчай авалодаў мною. Няўжо такія пакутлівыя ўражанні гэтых пяці дзён не дадуць мне плёну...»

Пагадзіцеся, што такія перажыванні душы сведчаць аб зайздроснай непасрэднасці натуры мастака.

Лепшыя спектаклі купалаўцаў па п'есах Астроўскага, на маю думку, тады і гучаць па-мастацку ярка і пераканальна, калі рэжысура і выканаўцы захоўваюць і перадаюць гэтую непасрэднасць пісьменніка.

З павагі (своеасаблівай — акцёрскай!) да эстэтычнага хараства драм і камедый Астроўскага і нараджаліся незабыўныя сцэнічныя вобразы, напрыклад, Л. Ржэцкай. Прыгадаем — Кручыніну, Шаблову, Мурзавецкую, Кукушкіну, Галчыху. Што ні партрэт, мастацкая завершанасць, багацце фарбаў, інтанацый, знешняга і ўнутранага малюнка вобраза... Або — Уладзімір Уладамірскі; нават яго покліч да сабакі: «Тамерла-ан!» — быў такі шматзначны, што працінаў сабой і самога Апалона Мурзавецкага, і нават увесь спектакль «Ваўкі і авечкі». Калі аднавіць у думках постаці Лыняева, Купавінай і Чугунова, што паўставалі ў выкананні Э. Шапко, В. Галіны і Г. Глебава, то мы маем права сказаць, што купалаўцы выступаюць аўтарамі непаўторнай галерэі тыпаў Астроўскага.

І гэтая ягоная, вобразна кажучы, «Волга» — рака, лес, вакзал, маёнтак, парк, пакой у багатым доме... У «Талентах і паклонніках», у «Апошняй ахвяры», у «Даходным месцы», у «Без віны вінаватых» на нашай сцэне часцей за ўсё прырода і абставіны жыцця герояў выглядаюць такімі, якімі іх аўтар мог бачыць (і пакутваць, як ён пісаў у дзённіку, ад замілавання прыгажосцю). Рэжысура і мастакі ўносяць у пастаноўку сучасныя прыёмы, змянілася нават тэхніка сцэны, але запаветнае «ад Астроўскага» і каштоўнейшае ў мастацтве «штосьці» абавязкова прысутнічае. Павінна прысутнічаць у спектаклі!..

Характар... Слоўца, якое даволі часта мы паўтараем, гаворачы пра драматургію і тэатр. Ды толькі такія характары, як у Астроўскага, — цэласныя і пераменлівыя, апантаныя і ў нечым не зусім устойлівыя, здольныя рабіць учынкі і ў «адпаведнасці» са сваёй натурай, і насуперак таму, чаго чакаеш ад іх, — рэдкія. Бо яны ў яго — унікальныя. Жадаў не паўтарае Мелузава, Падхалюзін — Белагубава, Мурзавецкая — Гурмыжскую, Юсаў — Мамаева, Глумаў — Бальзамінава. Няма ў героях прыкрай адназначнасці. Зацятыя ў нечым, асабліва купцы і купчыхі, яны жывуць жывым жыццём (даруйце такі збег слова)...

Яшчэ скажу. Ён бывае гнеўным і нават бязлітасным. Бывае і ласкавым, зычлівым. Калі, напрыклад, мне ўдалося перадаць яго гнеў, іграючы Белагубава, і пяшчоту ў Дармедошы, то гэта для мяне — вышэйшая ацэнка гледачоў.

З тым мы ставім і іграем Астроўскага — каб перадаць яго нянавісць да паноў і прыгнятальнікаў, каб раскрыць яго любоў да чалавека з народа, да светлай асобы. Тым ён і гуманіст...

Назавіце ў закулісным асяроддзі імя Астроўскага, і ўсе мы — С. Станюта і Л. Давідовіч, М. Яроменка і З. Браварская, В. Тарасаў і Б. Уладамірскі, Г. Арлова і Т. Аляксеева — усе купалаўцы з радасным чаканнем падумаем: каго выпадзе іграць мне?

А іграць Астроўскага хочацца заўсёды...

●

*У «Нататцы пра тэатральныя школы» Астроўскі ў 1881 годзе заўважыў, што акцёраў развялося ў Расіі надзвычай многа, але сярод іх артыстаў вельмі малы, амаль нязначны працэнт... Словы «акцёр» і «артыст» падкрэслены. Пад першым аўтар (яшчэ тады, задоўга да таго, як з'явіўся Станіслаўскі са сваёй сістэмай выхавання артыста-майстра, артыста-віртуоза) меў на ўвазе рамесніка, больш-менш здольнага выканаўцу ролі. Артыст жа для яго — ідэйна пераканы мастак, здатны на большае, чым ігру, — на стварэнне вобраза ў поліфаніі драмы або камедыі з ясным кірункам думкі і грамадскім пафасам.*

*Дарэчы, яго спадчына і выхоўвае менавіта а р т ы с т а ва ўсёй значнасці грамадзянскага сэнсу гэтага слова.*

*З размовы аб тым, што чэрпае і якія ўрокі атрымлівае сучасны акцёр, калі далучаецца да «свету Астроўскага», пачынаю гутарку з прадстаўніком трупы коласаўцаў.*

### Анатоль ШЭЛЕГ,

**народны артыст БССР:**

— Астроўскі дарагі кожнаму артысту, калі толькі ён меў шчасце і асалоду іграць у п'есах гэтага выдатнага знаўцы чалавека і яго сацыяльнага прызначэння. А такіх артыстаў — большасць. Калі ў думках перабіраеш рэпертуар Дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа, бачыш, што лёс многіх з нас склаўся пэўным чынам пад моцным уплывам драматургіі Астроўскага. Бяру хоць бы такую вялікую амплітуду ў часе, як спектакль саракавога года «Лес» і цяперашні — «Багну». Тады, напрыклад, мы з Таццянай Заранок фактычна дэбютавалі ў адказных класічных ролях: яна іграла Аксюшу, я — Буланава. Сёння ў «Багне» нас радуюць Георгій Дубаў (Кірыла Кісельнікаў) і Галіна Дзягілева (Лізанька). Станаўленне прафесійнага майстэрства акцёра, нават калі папярэдне ён іграў вялікія ролі, у драмах і камедыях Астроўскага асабліва адчувальнае.

Коласаўцы ганарацца тым, што менавіта наша трупа ўпершыню па-беларуску гаварыла, паглыбляючыся ў складаны і супярэчлівы свет грамадства ў Расіі мінулага стагоддзя, — у «Беспасажніцы» і «Лесе», у «Гарачым сэрцы» і «Праўда добра, а шчасце — лепш», і ў камедыі, якая ішла на сцэне не адзін сезон, «Не ўсё кату масленіца».

Розныя рэжысёры ставілі з намі Астроўскага. Думаю, не будзе перабольшаннем, калі скажу так: коласаўцы ніколі не зводзілі Астроўскага да вульгарызатарскіх схем і не забываліся на выразнае класавае расслаенне персанажаў. Ветэраны трупы — А. Ільінскі, А. Радзялоўская, Ц. Сяргейчык, Р. Кашэльнікава, А. Трус, З. Канапелька, І. Матусевіч, М. Звездачотаў, Я. Глебаўская, М. Бялінская, Ф. Шмакаў і іншыя майстры сцэны — пакінулі, на маю думку, яркі след у летапісе сцэнічнай гісторыі, якую ўмоўна можна назваць «Астроўскі і тэатр на Беларусі». Іх намаганнямі і талентам былі створаны незабыўныя вобразы і востра камедыйнага гучання, і вялікай драматычнай сілы.

Ёсць у А. Луначарскага такое выказванне: «Астроўскі любіць гэты быт, любіць яго за сакавітасць, за багатыя на фарбы вобразы, любіць, нібы Калумб, які толькі што адкрыў новую зямлю». Лепшыя нашы работы ў рэпертуары рускага класіка характэрныя таксама гэтым: мы адкрывалі ў п'есах новы для сябе свет.

Далей А. Луначарскі сведчыць: «Ён і ненавідзіць яго... бо ў гэтым рускім буржуазным быце бачыць занадта многа пачварнага». Зноў жа ў лепшых спектаклях коласаўцаў прысутнічае такая нянавісць да пачварнага свету, падзеленага на багатых і жабракоў.

І яшчэ заўважыў А. Луначарскі: Астроўскі пісаў «...дзеля вялікіх агнёў свабоды, што мігцяць наперадзе, вольнага шчасця, разумнага жыцця». І сцэнічнае ўвасабленне драм і камедый на коласаўскай сцэне адзначана такой яснай мэтай — спектаклі сцвярджалі і сцвярджаюць, што грамадства развівалася па законах гісторыі і наперадзе яго чакала перамога святла над цемрай.

Гэтым нам дарагі Аляксандр Мікалаевіч Астроўскі. Мабыць, не раз яшчэ мы сустрэнемся з яго творамі і адкрыем для сябе хараство праўдзівых характараў і драматызм вострых класавых канфліктаў. Для сябе і для новых пакаленняў гледачоў. Гэта драматург, які захапляе і вучыць публіку, дорыць эстэтычную асалоду і апявае чалавечую волю і высакароднае сэрца.

Што яшчэ важна для нас, артыстаў? Гэта толькі так здаецца, што нібы Астроўскі карыстаецца мовай «як у жыцці», што яго сюжэты цалкам паўтараюць рэальныя здарэнні. Не, гэты мастак валодае высокім майстэрствам у адборы самых патрэбных слоў, складзеных ім потым у гармонію то паэтычнай узнёсласці, то падкрэсленага бытавізму, у адборы падзей, з якіх вынікае лёс герояў. Рэаліст, але не раб рэчаіснасці; паэт у драматычным мастацтве! Яго п'есы — не копіі, выкананыя добрасумленным рамеснікам, а плён зацікаўленага асэнсавання жыцця натурай, чулай да хараства.

Таму выступленні на сцэне ў рэпертуары Астроўскага—гэта заўсёды адказны экзамен на творчую сталасць. І кожны раз мы па-новаму спасцігаем на прыкладзе яго вобразаў і сюжэтных калізій такую эстэтычную катэгорыю, як праўда ў мастацтве. Ён дае і, мабыць, яшчэ доўга будзе даваць тэатру ўрокі рэалізму. Сацыяльна-бытавое аблічча свайго часу гэты пісьменнік перадае ў драме з непераўзыдзенай маляўнічасцю.

●

*Надзвычай адказныя задачы ў прапагандзе творчасці Астроўскага сталі перад рускай сцэнай у нацыянальнай рэспубліцы.*

*Многія творы драматургіі гэтага выдатнага пісьменніка XIX стагоддзя станавіліся вядомымі і папулярнымі ў гарадах Беларусі адразу пасля таго, як іх igралі Масква, Пецярбург, Кіеў, Ніжні, Самара, Харкаў... Прагрэсіўныя дзеячы нават на глебе прыватнай антрэпрызы беражліва мацавалі сапраўднае мастацтва. І Астроўскі быў іх надзейным саюзнікам. Аўтарытэт і майстэрства яго самім фактам існавання п'ес змястоўных і ідэйна-мэтанакіраваных выціскалі са сцэны розныя вадэвільчыкі і сентыментальныя меладрамы, афіцыйную патэтыку і мяшчанскую слязлівасць.*

*Рускі тэатр БССР імя М. Горкага і яго малодшыя калегі ў абласных гарадах Беларусі з першых дзён дзейнасці і дагэтуль абавязкова пазначаюць на афішах назвы п'ес Астроўскага. Без іх немагчыма напісаць біяграфіі народных артыстаў СССР А. Клімавай і Я. Палосіна, народных артыстаў БССР А. Кістава, Я. Кімберга, І. Папова, Г. Абуховіч, Г. Волкава, А. Логінава, Д. Арлова, многіх ветэранаў сцэны і артыстычнай моладзі.*

*Паслухаем слова дырэктара Брэсцкага рускага драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі, калектыву, які кожны сезон цяпер іграе Астроўскага.*

### Леанід ВАЛЧЭЦКІ,

заслужаны дзеяч культуры БССР:

Відаць, немагчыма без Астроўскага ўявіць сабе рэпертуар любога калектыву, які мае за плячыма не адзін сезон творчай дзейнасці. Сустрэча з персанажамі яго п'ес — радасць для акцёраў. Яна абяцае эстэтычную і пазнавальную радасць і гледачам, калі тэатр па-сучаснаму зразумеў вялікага драматурга і памастацку праўдзіва ўвасобіў яго твор на сцэне.

З пятнаццаці п'ес А. М. Астроўскага, пастаўленых нашым тэатрам імя Ленінскага камсамола Беларусі ў Брэсце, не ўсе сталі раўнацэннымі спектаклямі. Некаторыя былі пастаўлены і сыграны шаблонна, падкрэслена традыцыйна, — напрыклад, «Не ўсё кату масленіца» або «Позняе каханне». Больш удалымі трэба лічыць спектаклі «Апошняя ахвяра» (1949 г.) і «Жаніцьба Бялугіна» (1950 г.), пастаўленыя А. Міронскім, «Навальніца» (1952 г.) у рэжысуры П. Маркіна, «Жаніцьба Бальзамінава» (1957 г.) рэжысёра Я. Батурына, «Беспасажніца» (1957 г.) і «На ўсякага мудраца хапае прастаты» (1969 г.) у пастаноўцы Г. Волкава.

У «свеце Астроўскага» асабліва натуральна адчуваюць сябе артысты старэйшага пакалення.

Мабыць, не перабольшу, сказаўшы, што А. Асторына і А. Самараў, напрыклад, са сваіх ролей у п'есах Астроўскага ствараюць маленькія шэдэўры з ювелірнай дакладнасцю. У іх вуснах слова пераліваецца ўсімі адценнямі, якімі яно багата ў драмах і камедыях гэтага чараўніка сцэнічнай мовы.

А. Самаравым можна любавацца ў «Без віны вінаватых» сорак сёмага года, дзе ён вывеў на сцэну сапраўды прывабную фігуру мецэната Ніла Стратоныча Дудукіна, і да спектакля шэсцьдзесят дзевятага года, у якім артыст з'яўляецца на падмостках на якія-небудзь дзве мінуты ў ролі «Рыгора, чалавека Турусінай». І тут ён іграе так, нібы для яго не існуюць маленькія ролі!..

Побач з ім у тым жа спектаклі Манефа ў выкананні А. Асторынай выглядае так, быццам гэтая ханжа сышла з палотнаў Рэпіна або Корына — усё тут буйнае: жэст, манера вымаўляць слова, глядзець у вочы партнёру... І такой — выразнай у кожнай дэталі сцэнічных паводзін, дакладнай і сакавітай у бытавых штрыхах — брастчане памятаюць гэтую актрысу з пяцідзесятых гадоў, калі яна праўдзіва і забаўна «пражыла» жыццё Ефрасінні Патапаўны Карандышавай у «Беспасажніцы», заваяўшы прызнанне самых дасведчаных тэатралаў горада.

Бліскучы быў артыст А. Логінаў у вобразе генерала Круціцкага. Злавесная фігура апантанага і заўзятага цемрашала! Артыст з гратэскавым напалам раскрываў і смешнае ў характары генерала, і своеасаблівы драматызм лёсу чалавека, які безнадзейна адстаў ад часу і робіцца ваяўнічым руцінёрам.

У іх, ветэранаў сцэны, вучыцца наша акцёрская змена.

Вялікі настаўнік акцёраў і сам Астроўскі. Яго мастацкае даследаванне людзей і нораваў канкрэтнага асяроддзя, саслоўя, класа абуджае ў выканаўцаў ролей імкненне паглыбіцца ў складаную псіхалогію і ў вір канфліктаў яркіх асоб. Драматург дакладна матывуе ўчынкі і мову сваіх герояў. Акцёр шукае апраўданне ўсяму гэтаму. Тут яму даводзіцца і прытрымлівацца паказу ўстойлівых саслоўных рысаў, і надаваць вобразу тую індывідуальнасць, якая вызначаецца яго асабістым мастакоўскім «я». Такая работа часцей за ўсё бывае вельмі захапляючай, і таму артысты любяць іграць Астроўскага. У Брэсце — таксама...

У юбілейныя дні мы паказваем спектакль «На бойкім месцы».

●

*«Гэты невычэрпны Астроўскі...» — так гавораць пра чалавека, які даў сцэнічнаму мастацтву вялікае багацце і ўвайшоў у плеяду выдатных дзеячоў сусветнай культуры. І знамянальна, што грамадскасць адзначае сёлета Міжнародны дзень тэатра, ушаноўваючы памяць Аляксандра Мікалаевіча Астроўскага.*

*У першыя гады Савецкай улады У. І. Ленін у гутарцы з выдаўцамі, пералічваючы шэраг аднаго імёны пісьменнікаў, чые кнігі патрэбны народу, заўважыў: «Не забудзьцеся на Астроўскага...»*

*Яго не забываюць. І не забудуць. Ён з тых, хто патрэбен жывым будаўнікам новага грамадства, новай культуры.*

**Барыс БУР'ЯН.**



Народны артыст СССР А. Ільінскі ў ролі Гразнова («Праўда добра, а шчасце — лепш»). Тэатр імя Я. Коласа.



«Багна». Народны артыст БССР А. Шэлег (Бараўцоў) і заслужаны артыст БССР Г. Дубаў (Кісельнікаў).



«Не ўсё кату масленіца». Народная артыстка БССР А. Радзялоўская (Круглова) і заслужаная артыстка БССР Т. Шашкіна (Агнія). Тэатр імя Я. Коласа.



«На бойкім месцы». Заслужаная артыстка БССР Н. Ганчарэнка (Яўгенія) і артыст В. Пестуноў (Мілавідаў). Брэсцкі тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі.



«Даходнае месца». Артысты В. Оніна (Вышнеўскі) і Я. Дашкоў (Жадаў). Гомельскі абласны тэатр.

*Выкладчыца Віцебскага музычнага вучылішча М. Булычова звярнулася ў рэдакцыю «ЛІМа» з пісьмом, дзе пытаецца аб камернай творчасці народнага артыста БССР прафесара А. Багатырова. «Асабліва падабаюцца мне рамансы кампазітара, якія чаруюць трапяткім лірызмам і хараством меладыйнага малюнка. Раскажыце, калі ласка, пра творчыя здабыткі гэтага майстра ў галіне вакальнай музыкі». Адказаць чытачу мы папрасілі музыказнаўцу Н. Юдзеніч.*



# АКРЫЛЕНЫЯ МЕЛОДЫІ

МАНУМЕНТАЛЬНЫЯ гераіка - патрыятычныя творы Анатоля Багатырова, сапраўды, добра вядомыя масаваму слухачу. Маюць яны і даволі глыбокую крытычную літаратуру. Між тым, на канцэртнай эстрадзе, па радыё і тэлебачанню даволі часта гучаць яго арыгінальныя, па-маладому ўсхваляваныя і змястоўныя па думцы камерныя творы. Іх любяць. Іх ведаюць аматары.

Ёсць у рамансах А. Багатырова нешта чароўнае. Настрой іх уладарна бярэ ў палон, абуджае асацыятыўныя роздум і душэўнае хваляванне.

Больш сямідзесяці рамансаў, напісаных ім, складаюць завершаныя цыклы або з'яўляюцца самастойнымі камернымі маналогамі-споведзямі.

Станіслаўскі, які, дарэчы, пачынаў сваё жыццё ў мастацтве спеваком, аднойчы сказаў: паэтычны тэкст — гэта тэма, а музыка — яе трактоўка, інтэрпрэтацыя. Вядома, кампазітар як інтэрпрэтатар тэксту мае вялікую свабоду: музыка прасвятляе, падкрэслівае адны моманты вершаваных прамоў і як бы адсоўвае ў цень, затушоўвае іншыя. Паэтычны тэкст набывае музычнае гучанне ў арсенале выяўленчых сродкаў, уласцівых індывідуальнаму почырку кампазітара. У пэўнай ступені ён падначальвае сабе, сваіму настрою паэтычны тэкст, карыстаецца ім для перадачы ўласных думак.

**Вытокі раманса вядуць нас да дамашняга — камернага музіцыравання, якое аб'ядноўвае пачуцці блізкіх людзей. Гэтая гістарычная традыцыя і абумовіла мабыць, тую характэрную якасць рамансавага жанру, якую Б Асаф'еў назваў «таварыскасцю». Сапраўды, мелодыка рамансаў, блізкая то да моўнай (рэчытатыўнай) плыні, то да арыёзнага спеву, бывае вельмі непасрэднай, шчырай, задушэўнай. Гэта надае рамансу характар роздуму «ўголас» або лірычнай споведзі перад слухачамі, якім ты давяраеш нешта запаветнае, нават патаемныя свае думкі, парыванні, імкненні.**

Які ж вобразны свет рамансаў Багатырова? Якой паўстае ў іх асоба аўтара (або лірычнага героя)? Першнаперш тут трэба сказаць пра выбар паэтычных тэкстаў. У творчым даробку кампазітара яго «саюзнікамі» часцей за ўсё выступаюць беларускія паэты. Ён паклаў на музыку вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, творы нашых сучаснікаў — М. Танка, А. Куляшова, П. Глебкі і іншых.

Усе паэтычныя творы, пакладзеныя ў аснову рамансаў Багатырова, можна вызначыць адным словам — лірыка. Але якое ж рознае значэнне ўкладваем мы ў гэтае паняцце! Тут і юнацкія пачуцці М. Багдановіча:

**Маладыя гады,**
**Маладыя жаданні!**
**Ні жуды, ні нуды,**
**Толькі шчасце кахання...**

І туга па волі, па родных прасторах у вершы Я. Коласа «Гусі»:

**Дзікія гусанькі, птушачкі вольныя,**
**Веснікі скорай зімы!**
**Хочацца з вамі мне ў стэпы прасторныя,**
**К свету і сонцу ад цьмы...**

І захапленне прыгажосцю простага чалавека, веліччу прыроды:

**А яна—царыца—**
**Весела, шчасліва**
**Карануе песняй**
**Залатое жніва.**
**Смела йдзе у сонцы,**
**Уся сама—як сонца,**
**Гэта жнейка нашэ**
**У нашаей старонцы...**
**(Я. Купала. «Жняя»).**

Гэта глыбокі роздум аб вернасці ўзвышаным марам, што даюць сілы на нялёгкім жыццёвым шляху:

**Думы, мары мае!..**
**Ганаруся я тым,**
**што навек заўладалі**
**вы сэрцам маім...**
**(А. Куляшоў. «Маё сэрца ў бары»).**

Надзвычай ярка, ва ўсім багацці і хараstве лірычнага гучання раскрываюцца маналогі пра свабоду, пра адзінства народаў, пра вернасць ленінскай справе (Я. Купала — «За свабоду сваю»; А. Куляшоў — «Песня перамогі» і «Жывы Ленін»).

Шырыня мастакоўскага светаадчування наогул уласціва Багатырову. І таму ў выбары паэтычных тэкстаў ён спыняецца на поўных любві да свабоды і павагі да чалавечай асобы вершах Лермантава, Пушкіна і Шэкспіра.

У паэзіі Лермантава кампазітару асабліва блізкія рамантычная ўзнёсласць і напружаны драматызм пачуцця («Нет, не тебя так пылко я люблю», «Они любили друг друга», «Монолог Мцыри»). Поўны паэтычнай летуценнасці, глыбокага роздуму аб свеце і чалавеку лермантаўскі раманс «Выхожу один я на дорогу» набыў пад пяром Багатырова новыя і нечаканыя, але такія прывабныя фарбы! Неаднаразова агучаны ў рускай і савецкай музыцы, выдатна распяяны ў народнай традыцыі, верш гэты цяпер зіхаціць як бы ў промнях беларускага музычнага сонца.

Пушкін, на думку Бялінскага належыць да вечна жывых і рухавых з'яў мастацтва. Кожны кампазітар адкрывае «свайго» Пушкіна. У рамансавай творчасці Багатырова мы сустракаем складаныя па думцы, поўныя горкіх прызнанняў і роздуму вершы аб сэнсе жыцця, аб чалавечым прызванні і вялікай адказнасці паэта-мастака. Усе яны блізкія да драматычнай элегіі і шматпланавыя па зместу.

Сярод вершаў Пушкіна, якія ўвайшлі ў рамансавую творчасць Багатырова, мы знаходзім такія шэдэўры, як «Воспоминание» («Когда для смертного умолкнет шумный день») з яго мужным прыняццем жыцця і «Зачем крутится ветр в овраге», дзе афарыстычна-вобразна ўвасоблена думка пра абавязак паэта.

У санетах Шэкспіра, з іх гарачым напалам жывога, сапраўднага пачуцця і драматычным жыццесцвярджэннем, Багатыроў адцяняе і ноты роспачы («Любовь — мой грех») і захапляюча-светлыя матывы («Проснись, любовь»). На нашу думку, якраз адчуванне незгасальнага святла асабліва падкрэсліваецца, акцэнтуецца музыкай.

Вершы Лермантава і Пушкіна, санеты Шэкспіра, выбраныя кампазітарам для сваіх рамансаў,— розныя па стылю, па сваёй паэтычнай інтанацыі. Але ёсць нешта, што яднае іх: спавядальная адкрытасць пачуцця, філасофская глыбіня. Яны класічныя ў самым шырокім сэнсе гэтага паняцця: тут пануе гармонія настрою і слова.

**Знаёмячыся з рамансамі Багатырова, часам задаеш сабе пытанне—чаму ён аб'ядноўвае іх у цыклы?**

**Вядома, уласцівыя таму або іншаму паэту вобразны лад і характэрная інтанацыя ў пэўнай ступені самі па сабе дыктуюць адзінства рамансавага цыкла. У гэтым, скажам, пераконваешся, калі параўноўваеш непасрэднасць і падкрэсленую камернасць рамансаў на вершы М. Багдановіча са значна большай аб'ектыўнасцю, з эпічнай маштабнасцю твораў на вершы А. Куляшова.**

**Мы маем падставы гаварыць аб драматычна-сэнсавым або жанравым аб'яднанні звенняў цыкла. Так, у цыкле на вершы Я. Коласа (гэта справядліва адзначыла музыказнаўца Т. Дубкова) рамансы чаргуюцца ў пэўнай драматургічнай паслядоўнасці і ствараюць тэматычна ўзыходзячую лінію: асоба—праца—свабода. Рамансы пушкінскага цыкла знітаваны развіццём душэўнага настрою: гэта—драматычныя элегіі з кульмінацыйнымі вяршынямі.**

Гаварыць аб рамансавай творчасці Багатырова сумарна вельмі нялёгка. Творы адрозніваюцца тэматыкай, стылем пісьма, абранага кампазітарам.

І ўсё ж ёсць рысы, характэрныя для гэтых вакальных твораў,— глыбокая эмацыянальнасць, тэмпераментнасць, меладычная і інтанацыйная натуральнасць, выяўленне багатых магчымасцей пеўчага голасу.

Выразная і рухавая мелодыка рамансаў, якая пераліваецца плаўнымі хвалямі, у вялікай ступені абагульняе як элементы народнай песеннасці, так і прыёмы, якія ідуць ад славянскага класічнага раманса. Вялікая ў меладычным развіцці энергія кульмінацый,—то драматычных, то вельмі радасных. Як правіла, яны супадаюць з найбольш важнымі, «ударнымі» радкамі тэксту. Нярэдка такія кульмінацыі размяшчаюцца ў самым канцы раманса і ўспрымаюцца як паэтычны «ўсплёск» («Маладыя гады» на словы М. Багдановіча, «Паляці, мая думка» на словы Я. Купалы).

Гармонія музычнага вобраза і настрою пераменлівая ў адценнях. Выключна жаданнем паслядоўна ісці за паэтычным словам-зместам можна апраўдаць наяўнасць у творах А. Багатырова даволі рэдкай з'явы: пачатак раманса тут бывае ў адной танальнасці, а завяршэнне — у другой. Напрыклад, твор на словы М. Багдановіча «На чужыне» пачынаецца мажорна, а завяршаецца ў паралельным міноры. Гэта адпавядае сумнаму сэнсу апошніх радкоў: «Успамянем, мой дружа, у багатай чужыне аб беднай, далёкай сваёй старане...»

Гармонія рамансаў Багатырова, як і мелодыка, амаль заўсёды мае прыкметы народнай стылістыкі. І ў натуральна-ладавых зваротах, і ў пабудове танальных планаў, і ў логіцы акордавых накіраванняў. Яскравае пацвярджэнне гэтаму — «Жняя» і «За свабоду сваю» з цыкла на словы Я. Купалы.

Як вядома, для раманса, у адрозненне ад песні з яе абагуленасцю, характэрна шматпланавае і дэталёва-канкрэтнае ўвасабленне паэтычнага вобраза. Вялікую ролю ў такой канкрэтызацыі адыгрывае партыя фартэпіяна. У рамансах Багатырова яна заўсёды ў развіцці, як бы разгортваецца, часам нават віртуозная.

**Камерныя творы Багатырова сапраўды вакальныя, натуральныя па меладычнаму разгортванню Іх выканаўца павінен валодаць вялікім і рухавым голасам, здатным на доўгі праціяг, здольным захоўваць адзінства меладычнай лініі і надаць патрэбную сілу і выразнасць кульмінацыйным момантам. Больш таго, артысту трэба мець драматычны талент. Без гэтага не будзе раскрыты ўнутраны сэнс музыкі, багатай кантрастамі, — то рамантычна-захопленай, то суровай і стрыманай, то па-эпічнаму велічнай. Не выпадкова ж буйнейшыя савецкія спевакі—Пірагоў, Гмыра, Ткачэнка, Біешу ўключалі вакальныя творы Багатырова ў свой рэпертуар.**

Рамансы Анатоля Багатырова — цікавая і багатая галіна беларускай нацыянальнай класікі.

**Ніна ЮДЗЕНІЧ.**

# ЗА ПУЛЬТАМ, ЗА ІНСТРУМЕНТАМ...

*ЗАСЛУЖАНАМУ ДЗЕЯЧУ МАСТАЦТВАЎ БССР М. ШНЕЙДЭРМАНУ — 75 ГАДОЎ.*

...Кампазітар стварыў цудоўную партытуру. Але пакуль яна не загучыць і не захопіць слухачоў сваім хараством і шчырасцю выказвання, пачуцці аўтара застаюцца толькі шыфрам на лістах нотнай паперы. Вось гэтак у стыхію музыкі, у неабсяжныя межы мастацкіх вобразаў сімфоніі, кантаты, оперы, балета ўладарна ўступае воля яшчэ аднаго творцы — дырыжора: таго, хто натхнёную споведзь аўтара таямнічага мора партытурных знакаў пераўтварае ў чароўныя і хвалюючыя, грозныя і суровыя, трапяткія і палкія мелодыі твора.

Вялікая адказнасць вынесці на суд слухачоў уласнае прачытанне ўжо вядомай музыкі, прымусіць іх прызнаць гэтую трактоўку, палюбіць яе, адчуць «сваёй». А наколькі цяжэй быць першаадкрывальнікам новай партытуры, зрабіць яе зразумелай і блізкай тым, хто толькі сёння пачуў гэтую музыку, прыйшоў на прэм'еру, каб пазнаёміцца з яшчэ адной рысай таленту свайго любімага кампазітара ці пасябраваць з творчасцю невядомага аўтара! Таму, відаць, не кожнаму, нават самаму спрактыкаванаму, дырыжору давяраюць кампазітары «несці ў людзі» сваё, толькі што народжанае музычнае дзіця.

У Марка Эмануілавіча Шнейдэрмана дырыжорская дзейнасць склалася шчасліва. Яму давялося быць першым выканаўцам такіх твораў савецкіх кампазітараў, як опера «Паўночны вецер» Л. Кніпера, Першая сімфонія Я. Брусілоўскага, Гераічная сімфонія А. Гладкоўскага, фартэпіянныя канцэрты Д. Кабалеўскага і Д. Шастаковіча ў тыя гады, калі ён быў дырыжорам заслужанага калектыву рэспублікі, акадэмічнага аркестра Ленінградскай філармоніі і Музычнага тэатра імя Немiровіча-Данчанкі ў Маскве. Гэта быў канец 20-х — пачатак 30-х гадоў. За плячыма ў маладога дырыжора была вялікая практыка ігры на флейце і фартэпіяна ў розных аркестрах, удзел у грамадзянскай вайне, кіраванне аркестрамі розных перасоўных оперных ансамбляў краіны, вучоба ў Кіеўскай і Ленінградскай кансерваторыях, дзе яго выхавацелямі былі такія музычныя волаты, як кампазітары А. Глазуноў і М. Штэйнберг, дырыжоры М. Малько і А. Гаук.



Назапашаны былі грунтоўныя веды. І калі ў 30-я гады М. Шнейдэрман звязаў свой творчы лёс з беларускай культурай, гэта быў дасведчаны музыкант. Як галоўны дырыжор тэатра оперы і балета і сімфанічнага аркестра, ён спрыяў нараджэнню і ўвасабленню твораў беларускіх кампазітараў. Оперы «Міхась Падгорны» і «Алеся» Я. Цікоцкага, балет «Салавей» М. Крошнера, сімфоніі М. Аладава і Я. Цікоцкага, інструментальныя канцэрты Д. Камінскага і П. Падкавырава мелі першую інтэрпрэтацыю гэтага чулага і смелага майстра. Ён разумее любую аўтарскую індывідуальнасць, умее захапіць сваім мастакоўскім «бачаннем» твора вялікія выканаўчыя калектывы.

Цяжка сказаць, хто на каго мае большы ўплыў: Шнейдэрман - дырыжор на Шнейдэрмана-кампазітара ці наадварот. Калі слухаеш яго творы, напісаныя для сімфанічнага аркестра ці ансамбля скрыпачоў, фартэпіянныя п'есы ці харавую музыку, вакальныя балады або струнныя квартэты, радуешся таму, як ён тонка адчувае ансамбль інструментаў і галасоў, знаходзіць гармонію зместу і формы. Кампазітар адгукаецца на надзённыя запатрабаванні часу. Яго творчасць — тэматычна багатая.

Як камуніст і педагог (ён дацэнт Беларускай кансерваторыі па кафедры харавога дырыжыравання), Марк Эмануілавіч аддае многа творчых сіл выхаванню маладых музыкантаў. Ён разумны і далікатны дарадчык кампазітараў і выканаўцаў, надзейны саюзнік шукальнікаў у мастацтве.

Заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР М. Э. Шнейдэрману сёлетняй вясной споўнілася 75 гадоў. Ён сустрэў гэтую дату поўны творчага імпэту і артыстычнага напалу. Мабыць, і ў гэтыя дні юбіляр або запісвае на нотнай паперы новую мелодыю, або накіраваўся ў адзін са звыклых для яго шэфскіх маршрутаў. Грамадскасць рэспублікі зычыць яму добрага здароўя і ўласцівага яго таленту натхнення.

**І. ІНІЧ.**

# І ПАКЛІКАЎ ЗВАНОК У ВЯЛІКУЮ ДАРОГУ...









Кадры з фільма.

«Дзесяць гадоў пазней, або надзеі і трывогі дзесятага «А», — так назвалі свой хранікальна-дакументальны фільм сцэнарыст Л. Браслаўскі, рэжысёры Р. Ясінскі, В. Сукманаў і аператар А. Шафран. Назва, праўда, доўгая, як і тая гісторыя, пра якую гаворыцца ў карціне.

Аднак, перш чым гаварыць пра новую работу беларускіх дакументалістаў, хацелася б прыгадаць мінулае, трохі незвычайную гісторыю гэтага фільма.

...Каля дзесяці гадоў назад на экранах нашай рэспублікі (ды, відаць, не толькі нашай) з'явілася кінастужка «Урок даўжынёю ў год». Я ўбачыла школьнікаў разам з іх настаўніцай. Яны трымалі сябе непасрэдна, натуральна, як «у сябе дома», як у сваім класе. Перада мной былі не акцёры і нават не тыпажы, — за партамі сядзелі звычайныя «першаклашкі», уважліва слухалі настаўніцу, выконвалі розныя практыкаванні. Але галоўная ўвага засяроджвалася на самастойнай творчасці хлопчыкаў і дзяўчынак. У фільме было паказана, як яны малююць, імкнуцца пазнаць «усе складанасці навукі» і нават вывучаюць замежную мову.

У той час я не ведала яшчэ, што ўбачанае мною было знята на плёнку так званым «метадам назірання». Рэжысёры таго фільма Р. Ясінскі і С. Фрыд (ён жа і аператар) выкарысталі яго, каб мы адчувалі, што камера «прысутнічае» ў класе, сярод вучняў Гомельскай школы № 10. Такі эфект атрымаўся — фільму верыш як сведку.

Асвятляючы ў дакументальным кіно дзейнасць школы, стваральнікі стужкі зацікавілі ўсіх, а нас, выкладчыкаў, відаць, у першую чаргу. Больш таго: яны заінтрыгавалі нас. Бо хацелася ведаць, што будзе з тымі вучнямі далей? Як складзецца іх лёс? Чым новым узбагаціцца педагагічная практыка і што яна прынясе вучням?

Гэтыя пытанні і мелі на ўвазе аўтары, прыступаючы да стварэння карціны «Наш клас праз год». Новая сустрэча з кінагероямі адбылася, калі яны перайшлі ў сёмы. Дарэчы, карціне і была дадзена такая назва «Яны ўжо ў сёмым» (Р. Ясінскі і тут супрацоўнічаў з Л. Браслаўскім і С. Фрыдам).

Аўтары адмовіліся ад першапачатковай задумы рабіць даследаванне, пачынаючы ад першага да апошняга класа, а ўзялі, так сказаць, вузлавыя пункты з жыцця школьнікаў — першы, сёмы і...

І вось перад намі дакументальны кінарэпартаж пра дзесяцікласнікаў, пра тых, хто наблізіўся да парога будучыні, хто падрыхтаваўся распачаць самастойнае жыццё.

Калі папярэднія фільмы былі кароткімі, па дзве часткі кожны, то гэты — поўнаметражны. Выраслі дзеці, а з імі і праблемы, пра якія трэба расказаць...

Глядзіш на экран і не адразу верыш, што перад табою тыя ж вучні. Так, тыя. Кадры, знятыя калісьці, пераконваюць нас у гэтым. Экран нібы не толькі робіць «ўзроставыя» параўнанні, але дае і псіхалагічны аспект падзей. Час наклаў адбітак на людзей. Шмат змен адбылося ў класе. Часам не ў тым напрамку, як гэтага хацелася б настаўнікам. Сам дырэктар школы спадзяваўся, што клас будзе ўзорным «да апошняга званка». Аднак жыццё ўнесла свае карэктывы, папраўкі. Не ўсім было суджана выйсці ў выдатнікі ці хоць «сярэднія»... Зноў-такі — як у жыцці. Адным проста не давалася вучоба, другія па розных прычынах не імкнуліся да мэты: не хапала жадання, вытрымкі, настойлівасці.

Праўда, асноўнае ядро, касцяк класа ўпэўнена ідзе наперад, усебакова рыхтуе сябе да таго, каб уліцца ў «дарослае жыццё». Дакументалісты з дапамогай сінхронных здымак і здымак схаванай камерай спрабуюць разабрацца, чаму так здарылася. Ім хочацца зразумець унутраны свет, думкі і пачуцці падлеткаў. Аўтары звяртаюцца з пытаннямі да педагогаў, школьнікаў, бацькоў. Атрымліваецца нібы калектыўнае абмеркаванне праблемы.

А тэма фільма — станаўленне чалавека ў школьных умовах, у самы адказны перыяд яго жыцця. Заслуга рэжысёраў у тым, што яны так па-майстэрску вырашаюць яе менавіта ў дакументальным кіно. Знаёмячыся з іх работай, не цяжка ўявіць, якую складаную задачу яны выканалі!

Што ў фільме асабліва каштоўнае? Аператарская работа? Дыктарскі тэкст? Музыка? Не, цяжка тут правесці размежаванне. Бо ўсе кампаненты зліваюцца ў цэласны твор добрага густу, высокага мастацкага ўзроўню.

Створаны калектыўны партрэт аднаго класа. Ён складаецца з розных характараў - індывідыумаў. Адны з іх больш запамінальныя, другія менш.

На маю думку, цікава расказваюць пра сваю нялёгкую працу многія настаўнікі, асабліва класны кіраўнік Вольга Дзімітраўна Літоўчанка. Па ўсім адчуваецца, што гэтая жанчына любіць, дасканала ведае сваю прафесію. У дасягненнях класа ёсць яе вялікая частка педагагічнай працы.

Або ўзяць Таню Мароз — камсамольскага важака (дарэчы, яе выступленне на пасяджэнні камітэта камсамола— адзін з лепшых эпізодаў фільма). Шчырая, непасрэдная атмасфера спалучаецца з баявой юнацкай дзелавітасцю, патрабавальнасцю да тых, хто «не крочыць у нагу».

Аўтарам стужкі ўдалося паказаць шэраг пераканальных вобразаў. Кінематаграфісты ідуць «па слядах», акцэнтуюць нашу ўвагу і на вытоках лёсу выпускнікоў, якія не адразу знаходзяць сваё месца. Тут каштоўныя тыя кадры «хронікі», дзе мы бачым, як падлеткі ідуць «не ў нагу»...

Асэнсаваць паказанае на экране памагае дыктарскі тэкст, які, мне здаецца, напісаны Л. Браслаўскім на добрым літаратурным і кінематаграфічным узроўні. Ён не ілюструе, а паглыбляе задуму сцэнарыста, робіць больш зразумелымі ўчынкі герояў і нават раскрывае іх характары. Аўтарскае слова, то паэтычна ўзнёслае, то інфармацыйнае, але заўсёды сакавітае, нярэдка насычана гумарам, падтэкстам. Мабыць, вялікая заслуга ў такім гучанні слова і народнага артыста РСФСР Я. Капляна.

Гаворачы аб станоўчым, хацелася б выказаць некаторыя крытычныя заўвагі аб новай стужцы беларускіх дакументалістаў. На маю думку, пры ўсіх вартасцях сінхронных эпізодаў, выглядаюць яны аднастайнымі, як кадры-партрэты. А можна было б зрабіць гэта інакш, цікавей.

Аўтары мелі шмат матэрыялу — фільматэчнага і знятага ў Гомелі зусім нядаўна. Разумееш добры намер стваральнікаў — сказаць пра сваіх герояў як мага больш. Але стужка магла б быць больш ёмістай па форме. Дакументалісты калі-нікалі паўтараюць сябе, міжволі затармажваюць дынаміку падзей.

Такія асобныя, можна сказаць, прыватныя пралікі. Цалкам жа фільм успрымаецца добра, і ўвогуле я лічу яго цікавай з'явай у беларускім дакументальным кіно.

У заключных кадрах урачыста звініць апошні званок. Ён нібы кліча выпускнікоў у вялікую дарогу.

Не перабольшу, калі скажу, што і фільму пракладзены шлях да сэрцаў гледачоў.

**Л. МЯДЗВЕДЗЕВА,**
намеснік дырэктара Мінскай школы-інтэрната № 13.

# КАБ СВЕТ СТАЎ ШЫРЭЙШЫМ

Кіно любяць усе. Але, на жаль, не ўсе могуць зразумець глыбокі сэнс таго ці іншага фільма, разабрацца, у імя чаго працаваў творчы калектыў, аб чым хацеў расказаць у сваёй стужцы. Выхаванню гледача, пашырэнню яго ведаў дапамагае бюро прапаганды кінамастацтва, створанае пры Саюзе кінематаграфістаў СССР. У краіне працуюць 24 аддзяленні бюро — па аднаму-два ў кожнай рэспубліцы.

Пра работу Беларускага аддзялення прапаганды савецкага кінамастацтва расказвае яго дырэктар Алена Аляксандраўна Астроўская.

— Нядаўна пад Масквой, у Болшава, адбыўся ўсесаюзны семінар дырэктараў, лектараў і іншых творчых работнікаў бюро прапаганды. Мы сустракаліся з вядомымі дзеячамі кіно — крытыкамі, рэжысёрамі, акцёрамі. Гарачыя гутаркі і спрэчкі на хвалюючыя тэмы былі вельмі карыснымі.

Перш чым пачаць расказ пра дзейнасць Беларускага аддзялення бюро прапаганды, назаву лічбу, якая прыводзілася ў адным з дакладаў на семінары. Усяго за апошні год па краіне прачытана каля 13 тысяч лекцый, з іх больш за 1200 выпала на долю лектараў з Беларусі. Кожная лекцыя, якую чытаюць нашы вядучыя кіназнаўцы, суправаджаецца паказам урыўкаў з кінастужак

У гэтым годзе мы ўпершыню пачынаем раздзельнае планаванне мерапрыемстваў у горадзе і вёсцы. Пасля Пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі» мы ўзялі абавязацельствы — пятую частку ўсёй работы праводзіць на сяле. У сувязі з гэтым актывізуем савет, які існуе пры бюро прапаганды і складаецца з творчых работнікаў кіно. Ужо заключаны першыя дагаворы з сельскімі дамамі культуры і клубамі.

Так павялося, што ў раёне вельмі мала дэманструецца дакументальных фільмаў. А на шматлікіх студыях краіны і ў нашай рэспубліцы ствараецца шмат дакументальных стужак, вартых таго, каб пра іх ведалі, стужак, якія могуць адыграць не апошнюю ролю ў справе выхавання працоўных.

Зразумела, што больш інтэнсіўна кінажыццё ідзе ў Мінску. Тут сустрэчы дзеячоў кіно і крытыкаў з гледачамі адбываюцца сістэматычна. Сярод афіш, якія абвяшчаюць пра новыя спектаклі і фільмы, канцэрты і цыркавыя прадстаўленні, — заўсёды ёсць паведамленні пра чарговую кіналекцыю.

Рыхтаваць адукаванага гледача з добрым густам — наша асноўная задача. І пачынаць выхоўваць такога гледача трэба з дзяцінства. Вось мы і імкнёмся стварыць клубы, якія б вабілі дзяцей і адпавядалі іх густам. Прывабным для юнага гледача стаў клуб, створаны пры палацы культуры прафсаюзаў «Хачу ўсё ведаць пра навуковае кіно». Не менш прыхільнікаў у другога клуба, які працуе пры кінатэатры «Перамога» для школьнікаў сярэдняга ўзросту—«У свеце цудоўнага».

У планах бюро — клуб для самых маленькіх, які мяркуем назваць «Казка». Для вучняў 3—4 класаў будзе «Зорачка». Дзеці вельмі хутка развіваюцца, і «дарослых» трэцякласнікаў ужо не цікавяць тыя пытанні, якія хвалююць маленькіх. Вось чаму і ўзнікла ідэя «раз'яднаць» іх. Стварэнне клубаў для дзяцей розных узростаў дае магчымасць паступова «адукоўваць» іх у галіне кінамастацтва, ускладняючы праграмы.

У нашых планах — гарадскі клуб для студэнтаў. Тут ужо можна будзе гаварыць аб найбольш сур'ёзных праблемах кінематаграфіі.

Трэба, відаць, падумаць і пра нейкія іншыя формы работы, і пра тое, як далучыць да гэтай справы юнакоў і дзяўчат — навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, маладых рабочых.

Мы пастаянна падтрымліваем творчыя сувязі з мастацтвазнаўцамі братніх рэспублік. Сёлета ў нас пабывалі кіназнаўцы і творчыя работнікі з Літвы. Аб развіцці літоўскага кінематографа расказаў кіназнаўца Э. Міляцінер. Нашым госцем быў і мастацтвазнаўца А. Арцюкоў з Кіргізіі. Лекцыю «Акцёр і нацыянальны характар» на матэрыяле работ, створаных у тэатры і кіно Сярго Закарыядзе, прачытала Л. Дуларадзе. У Віцебску, Гомелі, Магілёве, Бабруйску, Брэсце, Белаазёрску, Жодзіна, Салігорску прайшлі сустрэчы з кінаартыстамі Л. Пыр'евай, А. Дзямідавай, І. Пераверзевым, С. Марцінсонам, Я. Веснікам, Г. Мамедавым, рэжысёрам Ч. Вятровым.

Каб пазнаёміць шматлікіх аматараў кіно з кінамастацтвам нашай рэспублікі, за яе межы выязджаюць беларускія артысты, рэжысёры, мастацтвазнаўцы. У апошні час яны пабывалі ў Валгаградзе, Ульянаўску, Куйбышаве, Арэнбургу, Казані, Тальяці, Саратаве, Сызрані і іншых гарадах.

У адрас Беларускага аддзялення бюро прапаганды прыходзяць пісьмы — удзячныя і з заўвагамі. І гэта прыемна. Гэта азначае, што працуем мы не марна.

**Л. КОЗІНА.**

# ПОПЕЛ КЛААСА...

## ТЭМА ВАЙНЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ЖЫВАПІСЕ

Алег БЕЛАВУСАЎ

Памятаеце словы Ціля Уленшпігеля — слаўнага гёза, вясёлага штукара, грознага салдата, паэта і смельчака?..

Ён казаў: «Попел Клааса стукае ў маё сэрца!»

Попел Клааса — памяць сэрца аб закатаваным бацьку — вяла яго ў бой, рабіла бязлітасным да ворага, дапамагала пераносіць нягоды, вучыла быць настойлівым і няздомным у барацьбе, бескампрамісным у сваёй нянавісці да ўсяго, што прыгнятае вольналюбівую душу яго народа. Але попел Клааса, памяць сэрца, вучыла Ціля і дабраце да паплечнікаў, вучыла высокаму пачуццю самаахвярнасці ў імя вялікай мэты, зычлівасці да слабых, вялікадушнасці да пераможаных ворагаў.

Вялікую нянавісць да ворагаў і вялікую любоў да свайго народа будзіла ў душы Ціля памяць сэрца — попел Клааса!..

Попел мільёнаў закатаваных фашыстамі савецкіх людзей гучыць набатам у душы кожнага з нас. Праходзіць час, мінаюць дзесяцігоддзі з таго дня, як адгрымелі апошнія выбухі вялікай вайны, як адпалалі ў майскім небе салюты Перамогі. Але гэты журботны і гнеўны набат не сціхае, бо нельга сцішыць памяць сэрца, нельга забыцца на гора і славу, на пакуты і веліч свайго народа.

Памяць сэрца аб гераічных падзеях Вялікай Айчыннай вайны, аб подзвігах народа выхоўвае ў людзей высокія прынцыпы гуманізму, любоў да чалавека, да свабоды, да справядлівасці.

Беларускае выяўленчае мастацтва мае даўнія і трывалыя традыцыі адлюстравання ваеннай тэмы. У першыя гады пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны былі створаны такія значныя палотны, як «3-е ліпеня 1944 года ў Мінску» В. Волкава, «Сталі насмерць» Я. Зайцава, «Пераправа партызан» П. Гаўрыленкі, «За родную Беларусь» У. Сухаверхава, «Няскораныя» В. Цвірко, «Партызаны ў разведцы» Я. Ціхановіча, «Палонных вядуць» А. Шыбнёва.

Гэтыя работы, канечне, мелі недахопы, уласцівыя ўсяму мастацтву тых часоў, — былі, на наш сённяшні погляд, залішне, пампезнымі. Але гэтая іх якасць адлюстроўвала стыль і настрой першых пасляваенных гадоў, калі, здаецца, у самім паветры лунолі захапленне ад вялікай перамогі, радаснае адчуванне значнасці кожнай дробязі, якое ўласціва тым, хто доўга глядзеў проста ў вочы смерці і таму так шчыра і адкрыта радуецца і сонечнаму праменю, які ззяе ў вокнах новага дома, і дзіцячай усмешцы, і шапаценню зялёнага лісця, якое не заглушаюць выбухі бомб, і званкам першага пасляваеннага трамвая.

Глыбокі роздум аб вайне прыйдзе пазней, калі час, самы справядлівы суддзя, дазволіць разгледзець падзеі тых гераічных гадоў з некаторай адлегласці, дазволіць убачыць вайну ва ўсіх яе сувязях і супярэчнасцях, дазволіць вылучыць у ёй галоўнае, поўнасцю асэнсаваць значнасць страт.

Гэта, канечне, не азначае, што ў першыя пасляваенныя гады не было створана сапраўды глыбокіх твораў пра вайну, твораў, у якіх майстэрства мастака спалучалася б з глыбінёй аналізу філосафа. Такія работы былі. Мне здаецца, што адна з іх — «За родную Беларусь» У. Сухаверхава.

Калі глядзіш на гэтае палатно, мімволі прыгадваюцца словы Купалы: «Партызаны, партызаны, беларускія сыны...» У карціны У. Сухаверхава той жа песенны, амаль эпічны разгон, тая ж глыбіня думак і пачуццяў, выказаныя дакладнай і трапнай мовай. Няма патрэбы пераказваць тое, што адлюстравана на гэтай карціне — яна вядомая ўсім, хочацца толькі адзначыць, што ў ёй была вытрымана тая глыбіня абагульнення, тая шырыня вобразнасці, якія і сёння характэрныя для лепшых твораў беларускага выяўленчага мастацтва, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне.

У сярэдзіне пяцідзесятых гадоў у беларускае выяўленчае мастацтва прыйшоў вялікі атрад моладзі, з чыімі імёнамі, з чыёй творчасцю звязана далейшае паглыбленне мастакоўскага роздуму пра подзвіг беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай.

Работы М. Савіцкага, створаныя ім на пачатку шасцідзесятых гадоў, такія, як «Партызаны», «Віцебскія вароты», «Партызанская мадонна» — з'явіліся новым словам аб падзеях тых гераічных часоў, калі ўвесь беларускі народ узняўся супраць фашысцкай навалы.

Чым прыцягнулі да сябе тыя даўнейшыя работы М. Савіцкага? У іх, відаць, упершыню на поўны голас было сказана аб жудаснай трагедыі, якую перажыў беларускі народ, прычым сказана так, што мастакоўскі расказ гучаў не журботнай эпітафіяй, а магутным рэквіемам, эпічнай песняй, якая ўслаўляла мужнасць і стойкасць, высакароднасць і вернасць савецкага чалавека.

«Партызанская мадонна» — неўміручы сімвал жыцця, жыцця, якое ніколі не скорыцца перад несправядлівасцю, жыцця, здольнага абараніць сябе ад жудаснай навалы, выстаяць і перамагчы.

«Партызанская мадонна» — не проста сімвал мацярынства, якое заўсёды захоўвае сваю чысціню і высакароднасць. Вобразнасць гэтай карціны больш глыбокая і значная — у яе сімволіцы на поўны голас гучыць тэма Радзімы, маці-Радзімы, якая выпраўляе ў бой сваіх сыноў, каб адстаяць, абараніць будучае жыццё.



В. ВОЛКАЎ. 3-га ліпеня 1944 года ў Мінску (фрагмент).



М. ДАНЦЫГ. Нацюрморт з пішучай машынкай (фрагмент).



М. САВІЦКІ. Партызанская мадонна (фрагмент).

Не ўсе карціны М. Савіцкага, прысвечаныя вайне і партызанам, здолелі ўзняцца на тую ступень філасофскіх абагульненняў, на якой выканана «Партызанская мадонна». У нечым ён паўтарыў сябе, у нечым зрабіў крок назад. Залішне, на мой погляд, насычана сімваламі яго карціна «Легенда пра бацьку Міная», некаторай прасталінейнасцю думкі вызначаецца палатно «Камсамольцы», празмерна канструктыўнай выглядае кампазіцыя карціны «Забойства сям'і партызана». Гэтыя карціны — вехі на тым шляху, па якім ішоў тонкі і ўдумлівы мастак да свайго новага шэдэўра — карціны «У полі».

Знешне гэтая карціна апавядае не пра ваенныя падзеі, а пра мірныя будні хлебаробаў. У поле выйшла брыгада калгаснікаў. Пажылы мужчына, твар якога спярэшчаны маршчынамі, жанчына з журбой у вачах і малады хлопец, амаль падлетак...

Чырвоным трывожным святлом прасякнута палатно. Гэтая чырвань непакоіць, будзіць думку.

Так, поле паліта крывёй аднагодкаў таго сталага мужчыны, у гэтай чырвонай зямлі пахаваны сыны журботнай кабеты, па ім ішоў у сваю апошнюю атаку бацька падлетка. Зараз на гэтым полі залаціцца хлеб.

«У полі», на маю думку, з'яўляецца лагічным працягам той тэмы, якую з такой сілай раскрыў М. Савіцкі ў «Партызанскай мадонне». Працягам, але не паўтарэннем, бо ў новай карціне на поўную моц загучала тэма памяці.

Памяці пра тых, хто загінуў, пра тых, хто сваёй крывёю здабыў Перамогу, пра тых, хто прынёс свабоду ўсёй Еўропе.

Тэма памяці, тэма сыноўняй удзячнасці са шчымлівай сілай гучыць і ў карціне М. Данцыга «Нацюрморт з пішучай машынкай». За вонкава будзённай назвай, за звычайным, на першы погляд, сюжэтам — глыбокі роздум аб лёсе пакалення, аб лёсе тых маладых хлопцаў, якія нагбом пілі горкае віно вайны.

...Расчыненае ў лета акно, пішучая машынка, пакамечаныя лісты паперы і ў старой, пазелянелай ад часу артылерыйскай гільзе — тонкая галінка рабіны. У карціне няма чалавечай фігуры. Чалавек выйшаў за рамкі палатна, але мы адчуваем яго думкі, мы суперажываем яму, адчуваем, як цяжка сёння, амаль праз трыццаць гадоў пасля заканчэння вайны, з гранічнай шчырасцю і адкрытасцю расказаць пра падзеі тых далёкіх часоў, калі жыццё іншы раз вымяралася адным крокам, адным уздыхам. Але мы адчуваем і тое, як неабходна, як важна расказаць пра сваіх аднагодкаў, пра сваіх паплечнікаў «племени молодому, незнакомому», каб юнакі і дзяўчаты сямідзесятых навучыліся гэтак жа моцна любіць і гэтак жа страсна ненавідзець, як тыя, пра каго піша чалавек, які толькі што падняўся з-за рабочага стала, на якім, як напамінак, як сімвал веры — галінка рабіны ў пазелянелай ад часу артылерыйскай гільзе...

Многім беларускім мастакам давялося твар у твар сустракацца са смерцю ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Многія з іх носяць у душы неўміручую памяць пра сваё агнявое юнацтва, пра паплечнікаў, якія назаўсёды засталіся на палях бітваў. Можа таму такая дарагая і важная для іх тэма памяці, можа таму яны так часта звяртаюцца да яе ў сваіх работах.

Кожны вырашае гэтую тэму пасвойму, згодна са сваім майстэрствам, са сваім светаадчуваннем. Але ніводнага з іх нельга папракнуць у няшчырасці.

Мне не вельмі падабаюцца, напрыклад, карціны І. Стасевіча «Клятва» і «Суровае юнацтва». У іх недахопы чыста тэхнічнага плана. Залішне груваcткая кампазіцыя, перанасычанасць дэталямі, не заўсёды дакладны малюнак, стракатасць каларыту. Але, тым не менш, яны ўражваюць, хвалююць шчырасцю аўтарскай інтанацыі. Той шчырасцю, якая выводзіць на першы план палотны, прысвечаныя вайне, такіх таленавітых жывапісцаў, як Н. Воранаў, В. Грамыка, В. Сахненка, Л. Шчэмелеў, А. Кішчанка, Г. Вашчанка.

Дарэчы, пра карціны А. Кішчанкі і Г. Вашчанкі...

«Бетон» — гэты дыптых Г. Вашчанкі быў створаны некалькі гадоў назад. Сёння мне хацелася б звярнуцца да гэтай работы таму, што, на маю думку, у ёй была знойдзена нечаканая, неардынарная думка пра вайну і пра чалавека на вайне.

...Цяжкія глыбы шэрага бетону, непераадольныя носьбіты зла і постаць чалавека, які асмеліўся паўстаць супраць іх, кінуць ім выклік, пайсці на

штурм. І той жа бетон у другой часткі дыптыху — галоўны матэрыял стваральнай працы. Матэрыял, з якога будуюцца дамы і фабрыкі, палацы і інстытуты.

Свежасцю думкі і аўтарскага пачуцця вызначаецца і палатно А. Кішчанкі «Памяці подзвігу». У карціне адсутнічае звыклая ваенная атрыбутыка, але тым не менш яна расказвае пра тыя пачуцці, якія кіравалі Аляксандрам Матросавым, калі ён грудзьмі закрыў амбразуру дзота, каб ратаваць сяброў, тымі сотнямі дзяўчат-санітарак, якія пад агнём фашыстаў выносілі з поля бою параненых байцоў, тых тысяч і тысяч невядомых і вядомых герояў, якія ахвяравалі сваім жыццём у імя жыцця і свабоды народа.

Карціна А. Кішчанкі не ва ўсім дасканалая, да яе можна прад'явіць шмат прэтэнзій чыста прафесійнага парадку, і тым не меней яна вызначаецца гуманістычнасцю агульнай інтанацыі, прасякнута дабратой і пяшчотай. Яна глыбока хвалюе, бо няма, відаць, нічога ў чалавечай душы больш высакароднага, чым уменне ахвяраваць сабой, сваім жыццём дзеля жыцця і шчасця іншых людзей.

Не так даўно ў Беларускім дзяржаўным мастацкім музеі адкрылася рэспубліканская выстаўка «На варце Радзімы», выстаўка, прысвечаная дню Савецкай Арміі, слаўнаму юбілею Савецкіх Узброеных Сіл.

І хоць пра ўсю выстаўку ў цэлым нельга сказаць, што яна атрымалася цікавай і па-сапраўднаму змястоўнай, тым не менш хачу спыніцца на некаторых работах, якія там экспануюцца.

Намаганне разгледзець чалавека, за громам баталій прасачыць парыванні яго «душы жывой» характэрнае для ўсіх лепшых твораў беларускага выяўленчага мастацтва пасляваеннага перыяду. Гэтай пільнасцю да чалавека вызначаюцца і лепшыя работы, паказаныя на выстаўцы «На варце Радзімы». Перш за ўсё хацелася б засяродзіць увагу гледачоў на невялічкім палатне І. Давідовіча «Піянеры—героі Вялікай Айчыннай вайны». Карціна не вызначаецца кідкасцю формы, у ёй дарэмна шукаюць модных «навацый», нехта можа нават папракне яе за праставатасць. Але яе прастата глыбока выверана дакладнейшым інструментам — шчырасцю аўтарскага пачуцця.

...Група хлопчыкаў і дзяўчат, твары якіх мы ведаем па шматлікіх фатаграфіях і партрэтах. Зіна Партнова, Валодзя Дубінін, Марат Казей... Усе яны загінулі і пахаваны ў розных кутках нашай радзімы. Тут яны сабраны разам. Простыя дзіцячыя твары—але ў вачах недзіцячая рашучасць. Танюткія дзіцячыя рукі — але яны сціскаюць зброю. Суровая вопратка вайны—але пад ёй сэрцы, поўныя мужнасці і высакароднасці.

Трывожным святлом асветлены дзіцячыя твары. Напружанасць і дынаміка ў рухах кожнай постаці — яны нібы на хвіліну спыніліся, каб проста, вочы ў вочы, глянуць на нас, нашчадкаў іх славы, іх подзвігу.

Каторы раз здзіўляюся я духоўнаму багаццю, шчырасці і майстэрству І. Давідовіча, мастака, які здольны «простай» мовай сказаць пра такія складаныя рэчы, душэўнай цеплынёй сагрэць «вядомыя» факты, з неназойлівай патрабавальнасцю паставіць пытанні, адказаць на якія павінен кожны сумленны чалавек.

«Піянеры — героі Вялікай Айчыннай вайны» — карціна, якая па праву зойме сваё месца ў залатым фондзе беларускага выяўленчага мастацтва.

Шкада, што той гранічнай шчырасці ў раскрыцці сваіх адносін да падзей ваеннай пары, якой вызначаецца гэтая карціна пра юных герояў, часта не хапае сённяшняй мастакоўскай моладзі, тым, за каго ішлі ў бой і аддавалі жыццё воіны і партызаны ў агнявыя гады вайны.

Нейкай баязлівасцю, млявасцю думак і пачуццяў павявае ад многіх карцін маладых мастакоў, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне. Яны вырашаны шаблонна, быццам маладыя мастакі не ведаюць, што ў сапраўднае мастацтва не прыйсці па накатанай шашы, што кожны павінен шукаць свой шлях у мастацтва, сваю, толькі яму ўласцівую дарогу.

Я наўмысна не называю тут імёны тых, да каго адрасаваны гэтыя папрокі, бо мне здаецца, што яны ў той альбо іншай ступені могуць быць прыняты многімі, вельмі многімі маладымі беларускімі мастакамі — жывапісцамі, графікамі, скульптарамі.

Час аддаліў ад нас вайну, але ніякі час ніколі не сцішыць памяць сэрца, той набат, якім «попел Клааса» стукае ў сэрца кожнага савецкага чалавека, бо ён, гэты набат, заклікае не толькі да нянавісці, але і да вялікай любві.

# НАТХНЕННЕ ПОШУКУ

*У МАЙСТЭРНІ Л. ШЧЭМЕЛЕВА*



Майстэрня Леаніда Шчэмелева — кніга, якая расказвае аб яго жыцці...

Мноства палотнаў стаіць уздоўж сцен, на мальбертах — адразу некалькі карцін «у рабоце», на стале папкі з эцюдамі і накідамі, на сценах — рэпрадукцыі. Разглядаеш — і быццам перагортваеш старонкі творчага жыцця мастака.

Пошукі, няўдачы, зноў пошукі... Калі быць уважлівым — па работах у майстэрні можна прасачыць, як няўдача нарадзіла роздум, падштурхнула наперад. Якім шляхам ішла думка творцы, як адсякалася ўсё другараднае, непатрэбнае. Як, нарэшце, выкрышталізавалася тое, пра што можна сказаць — «творчы поспех».

...Проста з-за парты віцебскага фабрычна-заводскага вучылішча Леанід трапіў на фронт Вялікай Айчыннай. Чатыры франтавыя гады пакінулі ў яго душы і памяці значны след. Неаднойчы ў сваёй творчасці звяртаўся ён да тэмы вайны. Ён стварыў цэлы шэраг палотнаў-роздумаў аб лёсе свайго равесніка, аб юнаках і дзяўчатах, якіх гартавала грознае ваеннае ліхалецце.

Адна з гэтых карцін — «Маё нараджэнне» — асабліва шырока вядома гледачам як савецкім, так і замежным. Пра гэту работу шмат спрачаліся, шмат пісалі, вызначаючы як самую адметную яе рысу высокую гуманнасць аўтарскага пагляду на свет, шчырасць, яснасць пазіцыі мастака, які ўзняў свой голас супраць бесчалавечнасці войнаў.

Смерць у імя жыцця, мужнасць, воінскі абавязак... Гэта незабыўнае ўчора. А побач з памяццю аб гераічным мінулым — сённяшняя ява. Паэзія чалавечага цела, чароўнасць і чысціня юнацтва, тонкія рухі душы — вось улюбёныя матывы жывапісу Л. Шчэмелева. Ён стварыў серыю жаночых партрэтаў, прасякнутых задуменнасцю і лірызмам, любоўю да жыцця, да ўсяго прыгожага ў жыцці.

Ледзь прыкметна ўсміхаецца дзяўчына («Партрэт дачкі») — аб чым? У гэтай усмешцы і лёгкая хітрасць, і нейкія ўспаміны, і нешта яшчэ, пакуль нявыказанае, незразумелае... Прадчуванне жыцця.

Партрэты, пейзажы, нацюрморты... Пры ўсёй шырыні сюжэтных пошукаў, разнастайнасці жанраў, кампазіцыйных вырашэнняў творы Л. Шчэмелева вельмі блізкія паміж сабой. Блізкія той асаблівай, шчэмелеўскай, пільнасцю да жыцця, тонкасцю ўспрыняцця, інтэлігентнасцю і неназойлівасцю разважанняў аб самых складаных з'явах рэчаіснасці.

Каго б ні пісаў ён — студэнтаў ці салдат, жанчын Дагестана ці беларускіх сялянак, людзей Поўначы ці партызан Вялікай Айчыннай, — ён заўсёды выяўляе пэўныя ўнутраныя сувязі, якімі вызначаюцца пачуцці, думкі, учынкі герояў.

— Не капіраваць натуру, а выявіць праз яе свой унутраны свет, свае адносіны да таго, што адлюстроўваеш, — гаворыць Леанід Шчэмелеў.— Мастак павінен добра ведаць, што ён хоча сказаць людзям, якія пачуцці намагаецца абудзіць у іх душы.

У творчасці Л. Шчэмелева спалучаюцца рацыянальны спосаб мыслення і непасрэдная, багатая, паэтычная манера пісьма, якая дазваляе адчуць у палатне і даўкі смак паўночных ягад («Марошка»), і душэўную чысціню юнацтва («Ля школы», «Першакурсніцы»), і пранізлівы боль расставання («Апалчэнцы»).

Іншы раз Л. Шчэмелева папракаюць за тое, што ён карыстаецца адным, хай сабе і ўдалым, тэхнічным прыёмам. Што ж, гэтыя папрокі былі б слушнымі, калі б недасканаласць формы перашкаджала аўтару даносіць да гледача свае думкі і пачуцці. Але Л. Шчэмелеў — майстар. Ён не кідаецца ў крайнасці, як чалавек, што не намацаў свайго непаўторнага «я» ў мастацтве, а крочыць па абраным шляху спакойна, удумліва, падпарадкоўваючы форму свайму, адметнаму адчуванню свету, сваім прынцыпам у мастацтве. Узровень духоўнага пранікнення мастака ў стыль эпохі, мера ўвасаблення свайго мастакоўскага «я» — вось найбольш характэрныя рысы творчасці Л. Шчэмелева, рысы, якія ўяўляюцца нам значна больш важнымі і важкімі, чым фармальныя пошукі дзеля саміх пошукаў.

Мастак вельмі тонка адчувае біццё пульсу нашага часу. Ён аналізуе самыя складаныя парывы чалавечай душы, ён жыве тымі праблемамі, якімі жыве наш сучаснік — будаўнік камунізму. Можа таму лепшыя работы Л. Шчэмелева, не багатыя знешняй эмацыянальнасцю, уражваюць унутранай напружанасцю, высокім «энергетычным патэнцыялам». Мастак ведае і дэманструе сваёй творчасцю, што змястоўнасць жывапісу не ў колькасці патэтычных воклічаў. Яна ў глыбіні, цэласнасці пачуцця.

Пра творчасць Л. Шчэмелева шмат спрачаюцца. Спрачаюцца аб накіраванасці яго пошукаў, аб правамернасці і перспектыўнасці тых ці іншых яго пластычных канцэпцый. Спрачаюцца, аддаючы належнае самабытнасці яго даравання, высока ацэньваючы вызначальныя рысы яго творчасці — гуманізм, любоў да жыцця, сцвярджэнне значнасці і прыгажосці чалавека.

Пройдзе час, і карціны, над якімі цяпер працуе Л. Шчэмелеў, будуць завершаны. Яны з'явяцца на выстаўках, і мы, гледачы, будзем углядацца ў іх, суперажываць, захапляцца іх эмацыянальнай напружанасцю, глыбінёй аналізу, віртуознасцю жывапісу. А мастак у гэты час будзе стаяць у сваёй майстэрні, перад чыстым палатном, на якім толькі ён здольны ўбачыць контуры будучай кампазіцыі, кампазіцыі, якая павінна ўвасобіць у сабе думкі і пачуцці аўтара, «матэрыялізаваць» тыя вобразы, якія хвалююць яго, расказаць пра нешта вельмі блізкае і дарагое яму, расказаць так, каб усе, хто ўбачыць карціну, адчулі—яна пра іх, пра іх жыццё і ўнутраны свет...

**Б. КРЭПАК.**

## ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ

Адбыўся пленум праўлення Саюза мастакоў БССР. Удзельнікі пленума абмеркавалі пытанні арганізацыі выставачнай дзейнасці і план асноўных мерапрыемстваў праўлення на бягучы год.

З дакладам выступіў старшыня праўлення В. Пратасеня.

— Адной з галоўных задач, якія стаяць перад мастакамі рэспублікі, — сказаў ён, — з'яўляецца павышэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню твораў.

Пленум адзначыў, што асноўныя рэспубліканскія выстаўкі, якія адкрыюцца сёлета, будуць арыентаваны на тэму сучаснасці. Вялікай падзеяй павінна стаць рэспубліканская выстаўка «Беларусь сацыялістычная», якая намечана на канец года. Спецыяльна да адкрыцця новага выставачнага павільёна ў Мінску будзе падрыхтавана вялікая экспазіцыя твораў мастакоў Савецкай Беларусі.

У спрэчках па дакладу прынялі ўдзел У. Стальмашонак, М. Гуціеў, П. Белавусаў, А. Сурскі, Я. Красоўскі, В. Філімонаў, Т. Паражняк, І. Карасёў, П. Данелія, У. Бойка, М. Савіцкі, А. Шыбнёў.

Адбыліся выбары праўлення Мастацкага фонду БССР.

# ПЕРШЫ КРОК...

Выстаўка студэнцкіх работ... Для таго, хто робіць першыя крокі ў мастацтва, — гэта важная і значная падзея. І не толькі таму, што выстаўка падводзіць вынік рабоце за семестр, — для многіх яе ўдзельнікаў, студэнтаў мастацкага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута — гэта першае «публічнае выступленне», першая «спроба голасу».

Экспанаты выстаўкі займаюць фае, развешаны па сценах доўгіх калідораў новага корпуса інстытута. Нельга сказаць, што гэта зручна, — у калідорах цемнавата, ды і «адыходу» мала, даводзіцца глядзець работы амаль ва ўпор. Але тым не менш агульнае ўражанне ад выстаўкі добрае.

Жывапіс, скульптура, графіка, узоры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мадэлі адзення, праекты інтэр'ераў, дызайнерскія распрацоўкі — усе жанры выяўленчага мастацтва багата прадстаўлены на выстаўцы.

Вось работы студэнта першага курса В. Котуха. Хлопец толькі спасцігае азы жывапіснай граматы, але прадстаўлены на выстаўцы некалькімі работамі. Гэта сведчыць і аб яго працавітасці, і аб адпаведным прафесіяналізме. В. Котуха цікавіць тэма сучаснай вёскі. Па яго эцюдах «Сенакос», «Пастух», «Будаўніца» відаць, што ён добра ведае жыццё вёскі, умее заўважыць прыгожае ў няхітрых вясковых пейзажах, у простай працы хлебароба.

Крыху наіўнай выглядае яго карціна «На смерць Амілкара Кабрала», у якой малады мастак намагаецца асэнсаваць барацьбу народаў Афрыкі за свабоду, але тое, што ён узяўся за такую значную тэму, — заслугоўвае ўхвалы.

Цікава глядзяцца на выстаўцы работы другакурснікаў А. Кокцева «Зімовы дзень», «Дрывасекі», І. Гурэвіча «Дыванок», карціны пяцікурсніка У. Сулкоўскага, шасцікурсніка С. Кухліна.

Даволі багата прадстаўлена на выстаўцы і скульптура. Тут пераважна творы студэнтаў трэцяга, чацвёртага курсаў. Здалёк кідаецца ў вочы партрэт майстра спорту Якаўлева, які выканаў В. Байцун. Побач, вырашаны зусім у другім плане, «Партрэт дзяўчыны». У гэтых двух работах В. Байцун здолеў паказаць сваё ўменне пераадолець матэрыял, падпарадкаваць яго пастаўленым задачам.

Трэба сказаць, што студэнты-скульптары смела бяруцца за даволі складаныя тэмы і кампазіцыі, што несумненна сведчыць аб іх і прафесійнай, і грамадскай падрыхтаванасці.

І. Бураўкін, напрыклад, стварыў вельмі цікавую кампазіцыю паводле паэмы Я. Коласа «Сымон-музыка», а Д. Шымански выляпіў фігуру У. І. Леніна.

Уладзімір Ільіч быццам спяшаецца некуды. Яго крок пругкі, рухі дынамічныя. У павароце галавы, у наклоне корпуса — рашучасць.

Побач работы В. Іванова «Паэт рэвалюцыі», Г. Рубінштэйна «Барацьба за хлеб», А. Гвоздзікава «Перамога».

Анімалістычны жанр у скульптуры ў апошнія гады неяк прыйшоў у занепад. А між тым, мы ведаем цудоўныя работы скульптараў - анімалістаў.

Можа таму так прыемна было сустрэцца на студэнцкай выстаўцы з работамі ў анімалістычным жанры трэцякурсніка скульптурнага аддзялення К. Аляксеева. Жывёлы яго выглядаюць вельмі прывабнымі, смешнымі і крыху журботнымі.

Выстаўка работ студэнтаў мастацкага факультэта — першы самастойны крок у мастацтва.

**Г. ВІНАГРАДАЎ.**

Камен КАЛЧАЎ

АПАВЯДАННЕ

# У КУЗАВЕ ГРУЗАВІКА

З УСІХ ПРЫСУТНЫХ адзін доктар не сказаў яшчэ ні слова. Ён стаяў збоку, ля таго краю стала, дзе сядзеў палкоўнік, і моўчкі круціў у руках сурвэтку. Парадкам часу ўжо, вячэра скончылася, кельнеры вось-вось павінны падаць каву, а старыя таварышы ніяк не маглі рашыцца пакінуць залу і выйсці ў хол, дзе іх чакалі глыбокія мяккія крэслы. Трэба было, каб нехта падаў каманду. І, вядома, гэта зрабіў самы аўтарытэтны з іх — палкоўнік. Ён устаў і кінуў свой пастаянны жарт: «У калону па адным, за мной — шагам марш!»... Старыя байцы, якія і да сённяшняга дня не прызвычаіліся да мяккіх плюшавых крэслаў, не спяшаючыся занялі месцы ля каміна, і адразу ўся група стала падобна на колішні партызанскі атрад.

Абставіны ж тут, у горным доме адпачынку, былі зусім іншыя, ды і клопаты людзей сталі не тымі: адны з іх кіравалі прадпрыемствамі, хто камандаваў вайсковымі злучэннямі, іншыя былі заняты партыйнымі справамі. Адным словам, іх жыццё за апошнія дзесяць год істотна змянілася. Толькі доктар заставаўся тым жа лекарам па «ўнутраных хваробах», які цяпер, у мірны час, як і калісьці ў атрадзе, лячыў людзей, вяртаў іх да жыцця, змагаўся са смерцю... Сціплы і сарамлівы, ён і цяпер, на гэтай сустрэчы былых байцоў партызанскага атрада «Смерць фашызму», не лез у гаворку, а маўчаў і са шчырай цікавасцю слухаў расказы сваіх баявых сяброў...

— А зараз, другары,— сказаў, нарэшце, палкоўнік,— хацелася б паслухаць і нашага Бунчука, нашага слаўнага доктара, які ўсё сваё партызанскае жыццё насіў у сэрцы мару: захапіць у палон жывога немца і самому прывесці яго ў атрад са звязанымі рукамі... Што скажаш, дарагі доктар?

Палкоўнік паглядзеў на доктара і засмяяўся. Заўсміхаліся і астатнія былыя партызаны, што сабраліся тут ля каміна.

— Раскажы, раскажы, доктар, — настойвалі ўсе.

— Я мушу прызнацца, другары,— працягваў палкоўнік,— што хоць мы ўсе ненавідзелі гітлераўцаў, але такога заўзятага ворага акупантаў, як наш Бунчук, я не бачыў...

Палкоўнік не пераставаў жартаваць. Яго падтрымалі іншыя, успаміналіся самыя розныя выпадкі, у якіх праяўлялася высакародная нянавісць маладога партызанскага доктара. Жартаўнікі мелі на мэце адно — справакаваць яго на размову, і, трэба аддаць ім належнае, яны свайго дамагліся. Доктар паёрзаў у крэсле, адсунуў каву, з вінаватым выглядам сказаў, што піць не будзе — баіцца бяссоння, і, зачырванеўшыся ад хвалявання, пачаў гаварыць:

— Вы маеце рацыю, дарагія мае сябры, калі гаворыце пра маю нянавісць. Сапраўды, гэта і прывяло мяне да вас. Калі немцы ўварваліся ў Францыю, я служыў на турэцкай граніцы запасным фельчарам у пяхотнай роце. Наша часць спакойна несла звычайную службу на ўзгор'ях вакол Свіленграда. Але калі гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз, становішча ў нашым палку карэнным чынам змянілася: пачаліся бязглуздыя вучэнні, будаўніцтва ўмацаванняў і — раз'юшаная прапаганда супраць Савецкага Саюза. Мы, запасныя, ды і ўсе хлопцы, проста задыхаліся ад той агітацыі. Радыё раўло пра германскія «мяшкі» на Усходнім фронце. Над самай нашай палаткай вісеў дынамік — дзень і ноч грымеў пра маланкавыя ўдары гітлераўскіх дывізій. Проста жах! Мы хадзілі, як аглушаныя, і толькі скрыгаталі зубамі. І вось аднойчы радыё змоўкла. Кухар нашай роты, слаўны хлопец, перарэзаў кабель дынаміка, і цэлыя суткі паны афіцэры не мелі ніякіх звестак з Усходняга фронту. Затое мы выпусцілі лістоўкі і яшчэ больш паддалі жару, і пачалося такое, што і расказаць нельга. Арыштавалі ўсю роту, білі, катавалі, пакуль, нарэшце, не разагналі нас па іншых часцях.

— Гэта мы ведаем, доктар, — азваліся некаторыя.

— Канечне ж, вам гэта вядома, і ўсё ж хацелася спыніцца на некаторых момантах, якія аформілі, так сказаць, тую маю высакародную нянавісць. Ці вам гэта не цікава?

Доктар абвёў усіх запытальным позіркам і, убачыўшы на тварах шчырую зацікаўленасць, працягваў больш упэўнена:

— Уявіце сабе, другары, студэнта апошняга курса медыцынскага факультэта. Малады, жыццярадасны — звычайна гавораць пра такіх. Пры тым паэт, які тайна пісвае вершы. Сталы наведвальнік тайнага літаратурнага гуртка. Страсны аматар экскурсій. Аматар савецкіх фільмаў і савецкай літаратуры. Член рэмса[1]. Што яшчэ? Ага, ледзь не забыўся: тайна ж закаханы ў адно дзяўчо, якое і ведаць не ведала пра гэта самаадданае і пакутніцкае каханне. Нарэшце, можна дадаць: стрыманы ва ўсім і вялікі вораг танцаў. Адным словам, ідэальны сектант! Іншых асаблівых прыкмет, здаецца, не было. Калі не лічыць, зразумела, вялікай беднасці, якая была агульнай прыкметай усіх нас. Тут самы раз нагадаць, што мой бацька быў уладальнікам старога дашчанага барака, у якім ён дзень і ноч латаў абутак усёй бедннаты з нашага гаротнага Ючбунара — латаў ды ніяк не мог пералатаць... Я павінен прызнацца, што некалькі гадоў запар старанна вывучаў нямецкую мову, і ужо мог чытаць ва універсітэцкай бібліятэцы іхнія медыцынскія часопісы. Але, калі іх войскі нахлынулі да нас і асабліва, калі пачалі вайну з Савецкім Саюзам, я парваў і з мовай іхняй, і з іх верай, і з усім... Быў я вельмі бедны, але, даруйце, і горды! Падумаць толькі, у мацеры на пяцярых дзяцей часцяком кавалка хлеба не было. Старая маці здабывала яго мыццём бялізны ў чужых людзей, браты мае і сёстры таксама стараліся: адны хадзілі ў служках, каму ўдавалася зрэдку наняцца на фабрыку, нават самая меншая сястрычка хадзіла разам з маці, дапамагала. І толькі я быў неяк ненатуральна аддзелены ад іх—студэнт, да таго ж доктар... Гэта выглядала неверагодна, але я мушу сказаць, што заслуга ў маім паступленні ва універсітэт належала не бацьку, які к таму часу памёр, а аднаму майму старому настаўніку, які вельмі захапляўся маімі «надзвычайнымі здольнасцямі». І паколькі высакародны стары не бачыў нічога лепшага ў свеце за лекарскую прафесію, дык вырашыў любой цаной уладкаваць мяне вучыцца на медыцынскі факультэт... Адным словам, стары настаўнік прымусіў мяне ўвайсці ў круг і скакаць харо[2], унёс нават плату за першыя два гады навучання, а потым паляпаў мяне па плячы і сказаў: «Ну, а цяпер, хлопча, давай караскайся сам. І мы гэтак жа вучыліся, і мы гэтак жа змагаліся з хвалямі жыцця». Ох, бедны ідэаліст! Ён, пэўна, і не падазраваў, які хамут надзеў мне на шыю!.. Само сабой, у большасці там вучыліся дзеці заможных: сыны лекараў, вышэйшых чыноўнікаў, багатых сялян. Такія, як мая міласць, былі рэдкімі аскубанымі птушкамі ў багатай, сытай, самазадаволенай чарадзе сыночкаў багацеяў. Зрэшты, такіх было, як я, яшчэ трое-чацвёра студэнтаў, і мы з самага пачатку пацягнуліся адзін да аднаго... І, ведаеце, не маючы іншых сродкаў супрацьпаставіць сябе ім, мы налягалі на вучобу, чыталі да замарачэння... Гэтая акалічнасць і дапамагла мне авалодаць нямецкай мовай...

І вось, як я казаў ужо, прапала раптам мая ўся павага да гэтай мовы. Раней — так! — я ганарыўся сваімі ведамі. Гейне, Маркс, Энгельс... А тут раптам на вуліцах Сафіі загергетала гітлераўская погань. І, уявіце сабе, я быццам анямеў! «Не,— сказаў сам сабе,— не буду больш гаварыць на мове гэтых варвараў! Не, не і не!» Мая злосць і фанатызм узмацняліся з кожным днём, раслі, проста душылі мяне. Аднак маё няшчасце гэтым не абмяжоўвалася.

Аднойчы на наш факультэт прыбыў нейкі прафесар. Наколькі ён быў прафесарам, не скажу, а тое, што яго вельмі цікавілі фашыстоўскія арганізацыі,— факт. І, можаце сабе ўявіць, мяне хацелі прыставіць да гэтага «прафесара» перакладчыкам. І цяпер не магу зразумець, чаму менавіта мне выпаў гэты гонар... Думаю, што гэта было ці непаразуменне, ці проста правакацыя. Як бы там ні было, а выклікае аднойчы мяне наш дэкан і гаворыць:

— Младэнаў, сёння вы суправаджаеце пана Вінкельмана да Баянскай царквы, будуць з ім і іншыя нашы студэнты, але вы, як найбольш дасведчаны ў нямецкай мове, будзьце ласкавы, пазнаёміць госця з выдатнасцямі нашай старажытнай царквы і наогул будзьце ў яго поўным распараджэнні. Вы мяне разумееце?

Трэба сказаць, спачатку я збянтэжыўся ад такой увагі і не адразу мог што-небудзь запярэчыць. Але хутка апамятаўся і пачціва сказаў:

— Вы памыляецеся, пан прафесар, я не так ужо добра валодаю мовай. Акрамя таго, я недастаткова падрыхтаваны даваць тлумачэнні аб гістарычных цэрквах. А галоўнае — мой гарнітур...

Дэкан зірнуў на мяне ўважліва, паморшчыўся і строга сказаў:

— Што—ваш гарнітур? Зусім нядрэнны. Да таго ж пан Вінкельман на такія рэчы не звяртае ўвагі. Ён нацыянал-сацыяліст і добра ўсведамляе, што беднасць не загана. Наадварот, я думаю, што ваш выгляд прынясе яму сапраўднае задавальненне.

— Усё ж я прашу мяне вызваліць,— настойваў я.— Ёсць больш вартыя гэтай высокай і адказнай місіі студэнты, якія выканаюць яе лепш.

— Не, Младэнаў, мы вырашылі, каб менавіта вы суправаджалі пана Вінкельмана.

Я маўчаў... «Не, не быць таму, не быць таму,— паўтараў я сам сабе і ўпарта глядзеў сабе пад ногі.— Не быў і ніколі не буду слугой нацыянал-сацыялістаў... Не, не, не!» Так, як усе фанатыкі, я быў прастолінейны да адчаю. Нашага няшчаснага дэкана мая ўпартасць кінула ў пот. Ён дзівіўся з майго нахабства.

— Пан Младэнаў,—загаварыў пад канец ён з халоднай, злоснай пачцівасцю, выціраючы белай хусцінкай сваю пляшывую галаву,—мяне здзіўляюць вашы паводзіны. І не магу вытлумачыць гэта інакш, як вашымі нейкімі асаблівымі адносінамі да нашага госця. Мяркую, што за вашай адмовай хаваюцца палітычныя матывы.

Я маўчаў.

— Калі гэта так, скажыце шчыра, я не буду чыніць гвалт над вашым сумленнем... Пан Вінкельман нацыянал-сацыяліст. Зразумейце гэта правільна. З аднаго боку — нацыяналіст, з другога — сацыяліст. Я думаю, што другая палова гэтага палітычнага паняцця вас задаволіць, так? А калі так — згаджайцеся, вы знойдзеце з нашым госцем агульную мову.

Тут ужо я не мог стрываць. Машынальна скінуўшы акуляры, я пачаў іх без патрэбы праціраць, не адрываючы свайго памутнелага позірку ад нізенькага, тоўсценькага чалавечка, які з самазадаволеным выглядам сядзеў за бюро і ўхмыляўся, радуючыся, відаць, сваёй дасціпнай правакацыі.

— Пан прафесар,— пачаў я, зноў надзеўшы акуляры,— вы прасілі быць шчырым, дык шчыра вам скажу, што ні першая, ні другая паловы гэтага палітычнага паняцця мяне не задавальняюць! Гэта — адно. І, другое, не хачу і не магу быць слугой у людзей, якімі ўсёй душой пагарджаю... І, трэцяе, не хачу быць здраднікам...

Помніцца, я не ўсё сказаў, што хацеў сказаць. Не паспеў. Нехта як жалезам сціснуў маё плячо і выкінуў мяне з кабінета дэкана.

Адразу пасля гэтага інцыдэнта мяне, зразумела, абвінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе і ў дзёрзкіх адносінах да саюзнікаў Балгарыі. Я быў выключаны з універсітэта, і на гэтым закончылася мая медыцынская адукацыя. Я апынуўся на вуліцы і, заўважце, быў яшчэ ўдзячны, што яны не засадзілі мяне ў турму... Зрэшты, дзякуючы фашысцкаму богу тое сталася крыху пазней, калі мяне ўзялі ў войска і паслалі на турэцкую граніцу, калі здарылася гісторыя з лістоўкамі, калі нашу роту, як палітычна ненадзейную, расфармавалі і абвясцілі нас бунтаўшчыкамі. Тады я ўцёк з новай вайсковай часці, і, здаецца, добра зрабіў, бо магло быць і так, што павесілі б і мяне, як іншых.

Доктар адкінуўся ў крэсле і задумаўся. Ён адчуваў сябе стомленым і крыху вінаватым, што так доўга трымаў увагу людзей вакол сваёй асобы. Звычайна непрыкметны і сціплы, цяпер ён даў волю сабе больш, чым трэба было. Успаміны, відаць, завалодалі ім.

— ...Другары, — загаварыў зноў доктар,— не буду дакучаць вам далейшымі перыпетыямі майго жыцця, да таго, як трапіў у ваш атрад... Скажу толькі адно: мая нянавісць да немцаў набыла нейкі асаблівы, бадай, расісцкі характар... І гэта было дзіка! Разам з гітлераўцамі я пачаў ненавідзець усё нямецкае. Пачуўшы іхнюю гаворку, я адразу прыходзіў у шаленства! Я пачаў пагарджаць немцамі і ненавідзець іх, як пакрыўджанае дзіця. І, вядома, хутка стаў пасмешышчам усяго атрада...

Але ўспомніце восень 1943 года. Гітлераўскія войскі на Усходнім фронце разбіты. Якраз тады, калі помніце, мяне паслалі ў Сафію з важным даручэннем... Я пераапрануўся ў ваенную форму і, забяспечаны адпуск-

[1] РМС—былы саюз рабочай моладзі ў Балгарыі.

[2] Балгарскі нацыянальны танец.

Красін ХІМІРСКІ

## КЛЯТВА

Плеядзе балгарскіх рэвалюцыянераў — былых палітэмігрантаў у СССР.

Небяспечнымі дарогамі —
ад блакіраваных сёл,
ад мансард у дыме-копаці,
ад зямлянак-нор у плесені,
ад аковаў і наручнікаў,
ад астрогаў мураваных,
праз мяцеліцы і ліўні,
праз нянавісці штыкі,
праз муштроўку карных рот,
праз засады на граніцах,
праз удушлівыя трумы,
праз буруны хваль марскіх,
вы месяцамі і гадамі
ішлі да светлых зор Крамля,
каб мог я сёння дакрануцца
да іх рукой, пацалаваць—
так, як салдаты сцяг цалуюць—
і вашу клятву паўтарыць!

Іван ПЕЙЧАЎ

## ПОМНІ

Помні той вецер.
Помні
тратуары ў гразі,
што нічым не нагадваюць
кастрычнік.
Помні сінечу,
спаганеную
блакітам
паліцэйскіх мундзіраў.
Помні той горад
у шызым
асеннім мораку,
што нічым не нагадвае
кастрычнік,
апрача як крывёй
на плошчах
маладосці нашай.

З балгарскай пераклаў Ніл ГІЛЕВІЧ.

ным білетам, прыбыў у Сафію, як заваёўнік. Вы не можаце сабе ўявіць, з якой радасцю крочыў я па вуліцах горада, які вось-вось будзе ў нашых руках! Я дазваляў сабе такія вольнасці, што і да сённяшняга дня не магу сабе дараваць — такі я быў саманадзейны і безразважны. Дзе б я ні быў, з кім бы ні загаварыў, на языку было толькі адно—Усходні фронт: як там, ці не наступаюць зноў нашы, дакуль адкаціліся немцы, колькі дывізій узята ў палон, колькі збіта самалётаў і знішчана танкаў... Я проста губляў галаву ад радасці, задыхаўся ад шчасця. Хацелася бачыць пацвярджэнне маёй радасці ў кожным сустрэчным. Хацелася, каб мне беспярэпынна паўтаралі: «Нашы наступаюць, немцы даюць лататы!» З невыказным задавальненнем я пастаянна гаварыў усім: «Гітлер капут, Гітлер капут!» З усёй нямецкай мовы мне падабалася толькі адно слова — «капут»,— яно вельмі ўдала спалучалася з Гітлерам і гучала, як прымаўка...

Самае ж дзіўнае здарылася ў кузаве грузавіка, на якім тады я ехаў з Сафіі ў Плоўдзіў, каб вярнуцца ў атрад.

Гэта быў звычайны ваенны грузавік, які пустым пераганяўся ў Плоўдзіў. Я папрасіўся ў шафёра, і ён, бачачы, што я «свой» брат — абтрапаны і галодны, пачарнелы ад сонца вайсковец,— паказаў, каб я лез у кузаў.

Быў цёплы верасень, сонца добранька прыпякала. Падклаўшы пад галаву ранец, я задрамаў. А на выездзе з горада, здаецца, недзе ў ваколіцы царскага палаца Враня, грузавік нечакана спыніўся, і я пачуў нервовую нямецкую гаворку. Я адразу насцярожыўся і выглянуў з кузава. Унізе стаялі немцы ў паношанай форме і зялёных пілотках, таксама далёка не новых... «Бач, і тут не даюць спакою, гады»,—падумалася мне, і я зноў лёг, каб не бачылі іх мае вочы. Але па іхняй настойлівай гамонцы я і са слабым веданнем нямецкай мовы зразумеў, што яны просяцца падвезці іх да Плоўдзіва. Гэта мяне прывяло ў жах. Быць з імі ў адной кампаніі аж да самага Плоўдзіва! Разам з тым, гэта было для мяне зручна — менш небяспекі быць выкрытым, і ўсё ж я страшэнна злаваўся, што давядзецца ехаць з імі ў такой страшэннай блізкасці і некалькі гадзін запар слухаць нямецкую балбатню.

З гоманам і смехам, балбочучы на саксонскім дыялекце, фрыцы палезлі ў машыну з усіх бакоў, прымасціліся, хто дзе папала, і нават не заўважылі маёй прысутнасці... І, ведаеце, гэта мяне яшчэ больш раззлавала. А яны размясціліся, як дома, і далі знак шафёру ехаць. Машына рванула з месца, сустрэчны вецер зусім развесяліў немцаў, яны ажыўлена пачалі нешта абмяркоўваць, потым захапляцца навакольнай прыродай (уявіце сабе!), нарэшце, закурылі—большасць курыла люлькі — і, нарэшце, супакоіліся. Я стаяў насцярожаны, як падцяўшы хвост пакрыўджаны сабака, назіраў за імі цішком і маўчаў. У мяне ўсё мацней і мацней кіпела нянавісць. «Вось яны,— думаў я,— гаспадары свету, спынілі машыну, селі і цяпер ім на ўсё напляваць... Пры тым курэць, пэўна, наш балгарскі тытунь... У ранцах, пэўна, наша балгарскае сала, балгарскае масла, балгарскія каўбасы, балгарская садавіна... Жарыце, падавіцеся вы, лопніце!».. «Ясна, вяртаюцца з Усходняга фронту разбітыя рэшткі «непераможнай» арміі Гітлера...» Злосць на іх у мяне ўсё расла, пакуль, нарэшце, я не наважыў пагаварыць з імі пра Усходні фронт.

Побач са мной абапёрся на аўтамабільную пакрышку смуглы немец з люлькай у зубах, які моўчкі глядзеў на дарогу. Вецер варушыў на яго апрастанай галаве рэдкія валасы. пілотка валялася недзе ў нагах. Ён расшпіліў верхнія гузікі, расхрыстаўся і меў выгляд не вайскоўца, а цывільнага чалавека.

— Што, у Плоўдзіў едзеце? — запытаў я асцярожна.

— Я, я! — адказаў гучна немец і прыязна зірнуў на мяне. Я здзівіўся гэтай пачцівасці, тым больш, што ваенныя ніколі не выкладваюць першаму, хто трапіцца, куды яны накіроўваюцца. Але я працягваў наступаць, спытаўшы з сумным выразам на твары:

— Як становішча на фронце? Відаць, не надта каб...?

— Я, я, — адказаў ахвотна немец, вымаючы люльку з рота. — Капут.

Гэтае слоўца, маё любімае слоўца ў той час, якое я стараўся выцягнуць ад кожнага, мяне ўразіла. Уразіла тое, што пачуў яго не ад каго-небудзь, а ад нямецкага салдата. І падахвочаны першым поспехам, я працягваў яшчэ больш маркотным тонам:

— Так, так, шкада! Колькі ахвяр давялося прынесці!

Немец моўчкі смактаў люльку.

— Як шкада, што такія ахвяры...

Я настойліва гаварыў пра Усходні фронт, стараючыся ўцягнуць у размову і іншых нямецкіх салдат, якія сядзелі бліжэй... Звяртаючыся да кожнага, я прытворна ўздыхаў і шкадаваў вялікія страты на Усходнім фронце, але на немцаў гэта не зрабіла належнага ўражання ..

Я сеў зручней і амаль побач адчуў плячо старога немца. Ён выкурыў люльку, выбіў яе і схаваў у верхнюю кішэню курткі. Гледзячы ўдалячынь, стары немец па-ранейшаму маркотна, тужліва маўчаў. быццам навокал не было людзей, і я нейкі час не заводзіў з ім далейшых размоў. Астатнія таксама былі заняты сваімі думкамі, і я ўпершыню ўбачыў іх у нейкім іншым святле. Магчыма, яны думаюць пра свае родныя мясціны, пра свой дом? Пра свае лясы, палі і лугі? І гэта падбіла мяне спытаць суседа, адкуль ён родам? Той адразу ажывіўся і тут жа адказаў, што з Саксоніі, з самога Лейпцыга.

— З Лейпцыга? — усклікнуў я і дадаў без ніякай асцярожнасці: — У Лейпцыгу праходзіў працэс Дзімітрова!

— Я, я, я! — пацвердзіў гучна немец, ківаючы ў знак згоды галавой і чамусьці радасна ўсміхаючыся. — Дзімітроў, Дзімітроў...

— Так, — працягваў я, — Георгій Дзімітроў на Лейпцыгскім судзе нанёс першы ўдар па фашызму...

І, не знаходзячы, што сказаць яшчэ, я дадаў, узвысіўшы голас:

— Зер гут, зер гут!

— Я, я! Зер гут! — ахвотна азваўся немец, усё так жа прыязна ўсміхаючыся і думаючы пра нешта сваё...

Ён прыкідваўся, што яго цікавіць далягляд, а я без цырымоній глядзеў ва ўпор на яго твар і чакаў моманту, каб зноў загаварыць пра Георгія Дзімітрова. Гэта была вельмі зручная зачэпка, і я не хацеў упускаць такой магчымасці. А паколькі я быў чалавек нецярплівы, дык зноў запытаўся пра Лейпцыгскі працэс.

— О, яволь! — устрапянуўся немец. — Дас вар айн гросер працэс!..

І, відаць не ў сілах больш стрымацца, ён пачаў хутка і ўзбуджана пераказваць цэлыя пасажы з выдатнай і вядомай усяму свету прамовы Георгія Дзімітрова, якую той сказаў на Лейпцыгскім судзе. Немец расказваў спяшаючыся, з радасным хваляваннем, і гэта асабліва выразна адчувалася, калі ён вымаўляў імя Дзімітрова з характэрным нямецкім «р». Я не мог адвесці позірк ад ягоных сініх вачэй.

— А Герынг? Герынг? Ці помніце, як ён соп, як свіння, нікчэмны і бездапаможны перад Дзімітровым? Помніце ?— дапытваўся я, гледзячы ва ўпор.

— Я, я, я! — смяяўся немец і ў сваю чаргу пачаў вельмі жыва апісваць, як праваліліся на тым працэсе і Герынг, і Гебельс, і ўся гітлераўская хэўра...

Ад майго субяседніка я даведаўся, што ён рабочы, металург, што перад вайной быў некаторы час у канцлагеры, што яго жонка — таксама работніца — забіта нацыстамі як актывістка партыі, што адзінае іх дзіця памёрла ад сухотаў у самым пачатку вайны і іншае. «Гэта проста цуд! — думаў я. — Гэта ж другая Германія, пра якую я яшчэ нічога не ведаю, пра якую ўсе мы забыліся. Падпольная, маўклівая, загнаная ў канцлагеры і турмы. Германія — акрываўленая і знявечаная, але жывая і разумная, Германія Тэльмана, Германія Маркса і Энгельса!» І я з вучнёўскім захапленнем пачаў дэкламаваць вершы Гётэ, якія Дзімітроў чытаў на Лейпцыгскім працэсе, каб сказаць нямецкаму народу, што трэба быць молатам, а не кавадлам у наш гістарычны час... І немец слухаў, усміхаўся, ківаў галавой і час ад часу ўстаўляў сваё цвёрдае і катэгарычнае: «я, я, я!..»

. . . . . . . . . . .

Ужо надышла поўнач, а размова між былымі партызанамі быццам толькі пачыналася. У паўзмроку ясна і выразна гучаў голас доктара.

З балгарскай пераклаў Уладзімір АНІСКОВІЧ.

# «ЧАЛАВЕК — ПЯЦІГОДКА — СПАБОРНІЦТВА»

КОНКУРС БЕЛАРУСКАГА САВЕТА ПРАФСАЮЗАЎ І ДЗЯРЖТЭЛЕРАДЫЁ БССР

*Ідзе трэці, рашаючы год дзевятай пяцігодкі. ЦК КПСС, Савет Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ заклікалі працоўных краіны разгарнуць усесаюзнае сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне народнагаспадарчага плана на 1973 год.*

*Калектывы заводаў і фабрык, будоўляў і транспарту, працаўнікі сельскай гаспадаркі Савецкай Беларусі ўзялі на сябе павышаныя сацыялістычныя абавязацельствы і ўдарнай працай дабіваюцца выдатных працоўных поспехаў.*

*Цікава, вобразна, канкрэтна расказаць аб працоўных справах рабочых і калгаснікаў, аб лепшых людзях горада і вёскі—удзельніках усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва — такая мэта конкурсу, аб'яўленага Беларускім рэспубліканскім саветам прафесійных саюзаў і Дзяржаўным камітэтам Савета Міністраў БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню.*

*На конкурс прымаюцца тэле-радыёп'есы і інсцэніроўкі, сцэнарыі тэматычных перадач, радыёнарысы, рэпартажы, інфармацыйныя матэрыялы. Удзельнічаць у конкурсе запрашаюцца пісьменнікі, журналісты, рабочыя і сельскія карэспандэнты, спецыялісты народнай гаспадаркі, вучоныя, работнікі культуры.*

*За лепшыя матэрыялы, акрамя аўтарскага ганарару, вызначаны па кожнаму жанру адпаведныя прэміі. Такіх прэмій прадугледжваецца 54, у памеры ад 15 да 300 рублёў.*

*Падрабязныя ўмовы конкурсу будуць апублікаваны ў штотыднёвіку «Беларускае тэлебачанне і радыё» 24 сакавіка 1973 года.*

*Журы ў саставе прадстаўнікоў Беларускага савета прафсаюзаў і Дзяржтэлерадыё БССР падвядзе вынікі конкурсу ў снежні 1973 года.*

*Матэрыялы на конкурс «Чалавек—пяцігодка—спаборніцтва» накіроўваць па адрасах: Мінск, 220808, вуліца Камуністычная, 6, Беларускае тэлебачанне; Мінск, 220807, вуліца Красная, 4, Беларускае радыё.*

ПА СТАРОНКАХ КАЛЕНДАРА

# ПРА ПАЭТА І ТАВАРЫША

*ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ІЗІ ХАРЫКА*

Пятрусь БРОЎКА



Імя Ізі Харыка было шырока вядома сярод чытачоў, асабліва сярод яўрэйскіх працоўных мас. Першыя вершы, напісаныя ім у пачатку дваццатых гадоў, малады паэт падпісваў псеўданімам Ізі Зембін, а Зембінам звалася невялікае мястэчка, у якім нарадзіўся паэт у беднай сям'і шаўца. Калі мне ў юнацтве даводзілася праязджаць гэтае мястэчка па дарозе з дому на Барысаў, я заўсёды ўспамінаў вершы Харыка. А ён быў песняром рэвалюцыйнага пафасу, песняром яўрэйскай беднаты, тых, што «гаравалі вякамі, крык заглушыўшы ў сэрцы сваім». Лірыка яго перажыванняў, палымянасць радкоў, уменне паэта глыбока эпічна перадаць свае жыццёвыя назіранні — характэрныя для яго паэзіі.

Кастрычніцкая рэвалюцыя дапамагла стаць сапраўдным паэтам сыну яўрэйскай беднаты, як і ўсім нам, дзецям працы і нядолі, узнятым з самых нізоў, якія дзякуючы савецкай уладзе атрымалі адукацыю, а тым самым магчымасць уславіць веліч і прыгажосць новага жыцця.

Ізі Харык быў у першых шэрагах нашай пісьменніцкай арганізацыі, быў нашым добрым таварышам. Яго хвалявалі тыя ж вялікія перамены ў жыцці, якія хвалявалі ўсіх нас на беларускай зямлі. «На гэтай зямлі» — так называлася першая кніга вершаў Ізі Харыка. Менавіта на гэтай зямлі жылі яго героі і ўзрос ён сам. У паэме «Мінскія балоты» Харык праслаўляў герояў, якія змагаліся за вызваленне беларускай зямлі ад акупантаў. Ён стварыў прывабныя вобразы — настаўніцы ў паэме «Душой і целам» і хлебаробаў-камунараў у паэме «Хлеб», будаўнікоў Асінбуда ў паэме «Круглыя тыдні». Паэзія Ізі Харыка імкнулася расказаць у пявучых, усхваляваных радках аб дружбе разняволеных народаў, аб іх стваральнай працы ў гады савецкай улады пад кіраўніцтвам роднай Камуністычнай партыі.

Мне і маім сябрам-паэтам часта даводзілася выступаць у раённых цэнтрах, у калгасах і саўгасах разам з Ізі Харыкам. Не ведаючы яўрэйскай мовы, я, зразумела, не мог дасканала ацаніць ягоныя вершы, але я добра адчуваў, што яны аб тым, што стварыла сучассе на беларускай зямлі, і паэт мог з поўным правам сказаць пра сябе: «Я знаю цябе, Беларусь, як пальцы свае і далоні, апоўначы нават змагу пазнаць твае сцежкі...»

Я ўспамінаю радкі з вялікага верша Ізі Харыка «Ноч на Далёкім Усходзе», якія я пераклаў у 1934 годзе. Яны і сёння хвалююць мяне сваёй вобразнасцю і шырокім і вольным гучаннем:

**Мне так светла цяпер. Я нічога не бачыў ярчэй —**
**Снег гарамі плыве ля шырока адкрытых вачэй.**
**Закрываю я іх. І праз шчыліны глянуўшы ледзь —**
**Вырастае Далёкі Усход, быццам белы мядзведзь,**
**Важна мацае глебу, моцным гулам узняў берагі...**
**Але гэта не белы мядзведзь, гэта толькі шугаюць снягі...**

Успамінаючы Ізі Харыка, я ўспамінаю маладосць і ўсіх, хто натхнёна і шчыра працаваў у славу роднай савецкай зямлі.

**Калектыў рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» выказвае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі Рабчынскай Э. А. ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю сястры.**




*З ЗАПІСАК АДНАГО АНЕЛА*

Працуем, аж дым ідзе. Другую прагрэсіўку выкачваем. Чалавека ствараем. З боскай канцылярыі адны віншаванні ідуць. План утрая перавыконваем.

І на табе, нейкі тып з чарцяжамі прыбягае:

— Што гэта робіцца? — крычыць. — Форма ілба завужана. Мазгі не ўваходзяць.

— А вы без іх абыходзьцеся, — кажу. — Усё роўна ім, паводле Дарвіна, яшчэ мільярды год топаць.

Тут ён разышоўся:

— Гэта паскораная мадэль, — крычыць. — Вы і так усю Галактыку недаробкамі закідалі...

І пайшоў, і паехаў.

—... Да шэфа, — кажа, — на аўдыенцыю заўтра з'явіцеся! А пакуль нядзелю аб'яўляю, і кропка!

Калі нядзеля, значыць выхадны. Сяджу, люлькай дым да столі пускаю, воблакі ствараю.

А думкі ўсё вакол гэтага тыпа. І прынесла ж яго ліха на маю галаву! Аж у душы неяк мутарна.

На другі дзень пашпацыраваў. Уваходжу. Прысесці не паспеў, як напусціліся на мяне.

Першы анёл (галоўны кантралёр):

— Ці вы бачылі дзе такое? На восьмай планеце адных дурняў штампуюць! Што там праз год будзе?

Другі анёл (зборкай загадвае):

— Што я зраблю, калі мне лбы дрэнна пастаўляюць? Пра тэрміны ўжо і не кажу... Самі ведаеце, шэсць дзён запланавана. А тут табе і сонейка, і месяц, і ўсё жывое. Што атрымліваю, тое і збіраю!

Я, канечне, не вытрымаў.

— Даражэнькі, — кажу. — А чаму сёмае рабро не ставіш? Я ж яго па чарцяжу цюцелька ў цюцельку даю. А ты яго ўбок! Устанаўліваць цяжка? Га? А дзе ж разлік на вытрымку? Колькі кілаграмчыкаў цяпер твой асілак вытрымае? Праз цябе ж рэкорд па штанзе знізіцца...

Гаварыў я гэтак з паўгадзіны. Усіх супраць зборшчыка гэтага настроіў. Але ён зноў з гэтымі мазгамі лезе. Быццам, у яго самога не хапае.

Тут рацыяналізатар наш, Люцыпар, слова ўзяў.

— І чаго вы лаецеся, — кажа, — з гэтых жа костак, што анёл сэканоміў, добрую рэч стварыць можна. Яшчэ як спатрэбіцца!

Усе зацікавіліся. А Люцыпар ужо і чарцяжы разгортвае.

— Мадэль «Ева-1001», — кажа. — Усе сучасныя формы прыдадзены.

Глядзім і бачым: сапраўды, асоба нічога сабе. Трымаць у доме прыемна.

Бог адразу і парашыў:

— З сёмага рабра вырабляць!

І яшчэ таму анёлу прэмію адвалілі за эканомію матэрыялаў.

А мне вымову. За Дарвіна.




**Мікола ВЯРШЫНІН**

### «ПРАБІЎНЫ» АЎТАР

**Мае голас дужа звонкі**  
**І заводзіць ім у зман:**  
**Напісаў адну старонку,**  
**А шуміць — на ўвесь раман!**

### ПЕСНЯ ПЛАГІЯТАРА

**Бяру, нібыта ўласнае,**  
**Цягну ў гняздо сваё**  
**Па прынцыпу сучаснаму:**  
**Усё тваё — маё.**

**Павел САКОВІЧ**

## КАРАЦЕЛЬКІ

□ *Новы дырэктар мастацкіх майстэрань пачаў наводзіць свае парадкі. Першае, чаго ён патрабаваў: насіць да яго на подпіс кожную гатовую карціну.*

*Праз год дырэктар стаў шырока вядомым сааўтарам.*

□ *Мастакі павінны вызначацца стрыманасцю і ціпласцю — такая ўжо ў іх прафесія: трымае ў рамках.*

□ *Першая карціна мастака-пачатоўца: чысцюткае палатно ў рамцы. Назва: «Маё поле дзейнасці».*






Мал. Л. МУРАШКІ.

**Міласлаў ШВАНДРЛІК**



## Дзівосная кар'ера Альфрэда Мустра

Пан Мустр глыбока задумаўся — перад ім ляжала прыгожая паштоўка, а паслаць яе не было каму. Спачатку ён планаваў яе для свайго пляменніка Адолена, але той якраз атрымаў два гады са строгай ізаляцыяй — з чым тут яго павіншуеш?

— Каму б? — разважаў пан Мустр. — Наляпіў і марку, дык не выкідаць жа цяпер!

Раптам яго позірк упаў на шматок газеты, з якога пан Альфрэд вычытаў, што вечна малады заслужаны пісьменнік Францішак Мента адзначае ў сераду сваё шасцідзесяцігоддзе.

— Ну што ж, — прамармытаў пан Мустр, — мне рукі не адваляцца, а яму, можа, радасць будзе.

І вывеў на паштоўцы:

«Паважаны Майстар слова! У дзень Вашага шасцідзесяцігоддзя жадаю Вам добрага здароўя і далейшых творчых поспехаў. Шчыра Вам адданы чытач Альфрэд Мустр».

Адаслаўшы паштоўку, ён вярнуўся да звычайнага жыцця працоўнага чалавека. Але яго чакаў вялікі неспадзяванак — праз тры тыдні паштальён прынёс ліст, у якім было чорным па белым напісана:

«Паважаны таварыш! Сардэчна дзякую за віншаванне з прычыны майго шасцідзесяцігоддзя. Жадаю і Вам усяго найлепшага. Заслужаны пісьменнік Францішак Мента».

Крыху апамятаўшыся, пан Мустр памачыў пяро ў чарніла і сеў пісаць:

«Паважаны Мастак слова! Я глыбока расчулены тым, што Вы знайшлі час адказаць на маё віншаванне і напісалі мне — прабачце, простаму працоўнаму чалавеку. Нягледзячы на Вашу занятасць важнай і цяжкай працай, Вы выбралі хвілінку для мяне — чалавека, які для Вас нічога не азначае. Затое Вы для мяне значыце многа. Вашы кнігі я люблю чытаць больш, чым усе іншыя. І мае знаёмыя таксама любяць Вашы кнігі. Пішыце іх для нас пабольш, дарагі Творца! Ваш удзячны чытач Альфрэд Мустр».

Заслужаны пісьменнік Францішак Мента адказаў:

«Паважаны таварыш! Па сваім звычаі я адказваю на ўсе лісты чытачоў. Дзякую за выказаныя Вамі сімпатыі і жадаю, каб і надалей чытанне кніг прыносіла Вам задавальненне. Заслужаны пісьменнік Францішак Мента».

Вестка пра новы ліст Менты да Мустра ўскалыхнула ўвесь гарадок. Альфрэду Мустру адразу ж прапанавалі вакантнае месца бібліятэкара і пакуль што не вакантную пасаду загадчыка дома культуры. Абедзве пасады ён з удзячнасцю прыняў.

І тут жа напісаў наступны ліст:

«Паважаны Майстар! Дзякую за мілае, сяброўскае пасланне, якое мяне вельмі ўзрадавала і заахвоціла да яшчэ больш настойлівай працы з кнігай. Перш за ўсё — з Вашай кнігай, дарагі Творца! Як бібліятэкар, я магу смела сказаць, што Вашы кнігі карыстаюцца вялікім попытам у найшырэйшых колах чытачоў, галоўным чынам сярод рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі. Як загадчык дома культуры, я магу з усёй адказнасцю заявіць, што пры планаванні сустрэч з выдатнымі дзеячамі нашай культуры многія выказалі думку, што іменна Ваш прыезд быў бы вялікім гонарам для нашага старога культурнага цэнтра. Праўда, я не асмельваюся выказаць надзеі, што пры Вашай занятасці Вы змаглі б выканаць жаданне нашых чытачоў, таму прашу дазволу правесці канферэнцыю па Вашых творах мне самому. Потым я Вам прышлю падрабязную справаздачу. Шчыра Вам удзячны чытач Альфрэд Мустр, бібліятэкар і загадчык дома культуры».

Адказ заслужанага пісьменніка быў кароткі:

«Паважаны таварыш, рабіце так, як вам лепш. Падрабязную справаздачу пасылаць неабавязкова, я добра ведаю, як праходзяць канферэнцыі чытачоў. З прывітаннем Францішак Мента».

Канферэнцыя прайшла з вялікім поспехам. Пан Мустр усхвалявана, дрыготкім голасам гаварыў пра «свайго блізкага сябра, з якім мы вядзем пастаянную перапіску і які даручыў мне правядзенне гэтай канферэнцыі», што зрабіла надзвычайнае ўражанне на ўсіх прысутных.

У новым лісце Альфрэд Мустр паведамляў пра тое, што дзеці і школьнікі горада вельмі любяць творы пісьменніка, і той паслаў прывітанне дзецям.

Пасля адзінаццатага ліста Францішка Менты загадчык дома культуры Альфрэд Мустр атрымаў паведамленне аб смерці заслужанага пісьменніка, укладзенае ў канверт яго жонкай. Карэспандэнцыі прыйшоў канец.

Але цікавасць пана Мустра да пісьменніка не аслабла. Нядаўна ён перадаў выдавецтву рукапіс першай сваёй кнігі пад умоўнай назвай «Мая дружба з Францішкам Ментам», дзе называе заслужанага пісьменніка Франтам, Францішкам або Франем. Кніга з'яўляецца цікавым гісторыка-літаратурным дакументам аб узаемаадносінах двух тытанаў культуры.

Пераклаў з чэшскай А. МАЖЭЙКА.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600. ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Х. Д. ЖЫЧКА.





Індэкс 63856 АТ 05137